# БЕЛАРУСКІ



BELARUSIAN DIGEST

# ДАЙДЖЭСТ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

у АМЭРЫЦЫ



1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.



№ 3(74) Сакавік 2000 March Год выд. 8.


## 25-га САКАВІКА ДЗЕНЬ ВОЛІ —






## Жыве Беларусь!



Ужо 82-гі раз Беларусы адзначаюць гадавіну вялікага гістарычнага Акту 25-га Сакавіка 1918 году, на моцы якога Беларусь была абвешчана вольнаю і незалежнаю дзяржавай у межах расьсяленьня і лічбовае перавагі беларускага народу.

Вітаем нашых чытачоў і ўсіх суродзічаў у Замежжы і на Бацькаўшчыне са сьвятам Вялікага Сакавіка. Няхай гэты дзень дасьць нам усім новыя сілы дзеля змаганьня за поўную незалежнасьць і свабоду нашае шматпакутнае і прыгнечанае Бацькаўшчыны-Беларусі.

**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пpycкi

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ (ЗША)

# 82-я ЎГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

*Дык шумі, як шумеў, вялікан — ясакар*
*Шапаці сьпелы колас у полі,*
*А я песьню сваю буду пець — я бунтар!*
*Буду клікаць народ свой да волі.*

*Міхась Чарот*

82 гады таму на руінах чужога самаўладзьдзя ў Беларусі, наш народ заклаў падмурак свайго нацыянальнага жыцьця, адраджэньня Беларускае Дзяржавы. Дзень 25-га Сакавіка назаўсёды стаўся сымбалем волі Беларусі. Ворагі беларускае незалежнасьці яго ня толькі не прызнаюць, яны сурова забараняюць адзначэньне гэтага нашага Вялікага Сьвята. Яны ведаюць, што яно яднае наш народ, падштурхоўвае нашыя нацыянальныя сілы на вызваленьне Бацькаўшчыны.

Сёньняшні расейскі марыянэткавы ўрад у Беларусі ператварыў нашую Бацькаўшчыну ў сацыяльна-экспэрымэнтальную пляцоўку для будаўніцтва выдуманага Лукашэнкам гэтак званага "рынкавага сацыялізму". У духоўным сэньсе сутнасьць гэтага будаўніцтва зводзіцца да таго, каб як найхутчэй зьліквідаваць усё нацыянальна-беларускае.

На сваёй прэс-канфэрэнцыі, праз тыдзень пасьля падпісаньня беларуска-расейскае інтэграцыйнае дамовы ў сьнежні мінулага году, Лукашэнка, гаворачы пра вайсковую частку гэтае дамовы, казаў, што ў выпадку вайны, Беларусь будзе бараніць Расею ў заходнім кірунку, а "ўзброеныя сілы Расеі будуць гарантаваць Беларусі атамную бясьпеку".

Гэта значыць, што ў выпадку вайны з Захадам, які, дарэчы, ніколі Беларусі не пагражаў і нападаць на яе, напэўна-ж, не зьбіраецца, беларусы будуць вымушаны першымі падстаўляць свае галовы, каб бараніць чужыя інтарэсы. А як Расея можа гарантаваць Беларусі атамную бясьпеку і што яна, каб і хацела, можа зрабіць у выпадку, крый Божа, атамнае вайны? Ды нічога! Лукашэнкавае тлумачэньне вайсковае часткі дамовы — гэта-ж абсалютная бязглуздзіца. Хутчэй усяго, калі Лукашэнка ўблытаў-бы Беларусь у чужую вайну з Заходнім сьветам, дык ён гэтым самым зрабіў-бы нашу Бацькаўшчыну першым аб'ектам атамнае катастрофы. Гаворачы пра нейкія гарантыі, расейска-беларускі інтэгратар ігнаруе інтэлектуальную здольнасьць Беларусі, высьмейвае яе, зьдзекваючыся з розуму беларускага народу.

Пасьля адыходу Ельцына з пасады расейскага прэзыдэнта, інтэграцыйныя працэсы паміж Беларусяй і Расеяй будуць, мабыць, прысьпешвацца. І гэта не таму, што Ельцын меў меншыя імпэрскія амбіцыі да задушэньня беларускае свабоды і незалежнасьці, чым ягоны спадкаемец. Не! Калі Барыса Ельцына што і стрымоўвала, дык гэта ягоныя частыя захворваньні, а не нейкія там, скажам, дэмакратычныя меркаваньні. Гэта вельмі яскрава пацьвярджаецца тою працэдураю, якою ён карыстаўся пры выхадзе на пэнсію за шэсьць месяцаў да сканчэньня тэрміну прэзыдэнцтва.

Ігнаруючы звычайныя дэмакратычныя прынцыпы, Ельцын, баючыся за сваю будучыню пасьля выхаду на пэнсію (бо-ж яго абвінавачвалі за стварэньне палітычнага і эканамічнага бязладзьдзя ў Расеі), прызначыў на пасаду прэм'ер міністра Ўладзімера Пуціна, адданага яму чалавека, былога кіраўніка КГБ, каб праз некалькі месяцаў зрабіць яго сваім спадкаемцам — прэзыдэнтам Расеі. Дзе і ў якой краіне збанкрутаваны кіраўнік дзяржавы прызначае на сваё месца чалавека, першым крокам якога на пасадзе прэзыдэнта ёсьць падпісаньне пастановы пра недатыкальнасьць асобы адыходзячага прэзыдэнта, нейкае, так-бы мовіць, граматы на адпушчэньне грахоў ягонага прэзыдэнцтва? Дзе і ў якой краіне на пасаду прэзыдэнта прызначаецца чалавек, які выйшаў з ганебнае тэрарыстычнае ўстановы, якая, стрэлам у патыліцу, абарвала жыцьцё мільёнаў людзей, ахвяраў нечалавечага рэжыму? Дзе і ў якой краіне, выкарыстоўваецца пачуцьцё помсты, самае нізкае пачуцьцё свайго народу, каб пачаць жорсткае вынішчэньне чужога народу (у дадзеным выпадку народу Чэчні) для здабыцьця папулярнасьці свайму ўраду? І, нарэшце, дзе і ў якой краіне ганебная вайна супроць прыгнечанае нацыі выклікае ўздым і шырокую падтрымку з боку імпэрскадумаючага народу?

Чачэнцы ніколі не прэтэндавалі на паводзіны анёлаў у барацьбе за сваё існаваньне. Калі часамі яны бывалі занадта ўзрушанымі, дык чаго-ж чакаць? Напрацягу двух стагодзьдзяў расейская імпэрыя пазбаўляла іх нацыянальнага гонару, высьмейвала іх як нацыю і фізычна вынішчала.

У першай палове мінулага студзеня, калі Расея, рыхтуючыся да маланкавага захопу чачэнскае сталіцы, пачала пачуваць блізасьць свае перамогі, чачэнскія патрыёты нечакана прыпынілі гэтую "маланку" выцісьнуўшы расейскае войска з трох гарадоў на ўсход ад Грознага. Зьбянтэжыўшыся, расейскія генэралы адразу-ж знайшлі прычыну нечаканага супраціву ў тым, што іхнае войска было, маўляў, занадта чулым да мясцовага насельніцтва, сярод якога нібыта хаваліся гэтак званыя тэрарысты. Кажучы гэтыя словы, расейскі генэрал Віктар Казанцаў, кіраўнік расейскага войска ў чачэнскай вайне, не палічыў патрэбным гаварыць пра дэталі расейскае вайсковае тактыкі. Яму, гэтаму дабрадзею, і ў галаву не прыйшло, каб успомніць пра безразважнае бамбаваньне чачэнскае сталіцы, ад якога тысячы дзяцей, старых людзей і жанчын хаваліся дзе толькі маглі, каб застацца жывымі. Яму і ў галаву не прыйшло, каб сказаць, што расейская вынішчальная акцыя стварыла звыш 200 тысяч чачэнскіх уцекачоў, прымусіла іх пакінуць свае хаты, якія пасьля сыстэматычна рабаваліся расейскімі жаўнерамі. Тых, хто адважваўся гэтаму супраціўляцца, расейскія вайскоўцы, з бандыцкай лёгкасьцю, забівалі.

Дык вось, каб скончыць з гэтак званаю "небясьпечнаю чуласьцю" да чачэнскага насельніцтва, расейскія генэралы вырашылі ўжываць спэцыяльныя паліва-паветраныя бомбы — асабліва прыдатныя і эфэктыўныя сродкі для масавага вынішчэньня людзей. Аднак, адным з найбольш хвалюючых аспэктаў "чачэнскага пытаньня" была пастанова расейскага ўраду затрымоўваць мужчынскае насельніцтва Чэчні, пачынаючы ад 10-ці гадовых дзяцей да мужчын 60-ці гадовага ўзросту, для праверкі іхнай магчымай сувязі з чачэнскімі вайскоўцамі. Згодна з такім стаўленьнем, кожны чачэнец будзе лічыцца вінаватым, а вінаватых не шкадуюць... Нарэшце, Расея прызналася, што яна ваюе не з бандытамі і тэрарыстамі, а з усім чачэнскім народам. Сорам табе, бяздумная, бязьлітасная Расея!

І вось у гэтую Расею Лукашэнка намагаецца зацягнуць наш абяздолены народ, каб дасягнуць свайго асабістага ідэялу. Для Лукашэнкі камуністычная ідэя з яе прэтэньзіямі на абсалютную праўду лічыцца нечым вышэйшым і да гэтага ён імкнецца. Ён адчынена сумуе, што разваліласся савецкая імпэрыя, што народы былое імпэрыі не падтрымоўваюць расейскіх мэсіянскіх традыцыяў. Сярод расейскае вялікадзяржаўнае эліты Лукашэнка — гэта ня толькі расейская марыянэтка, але і фанатычны будаўнік расейскае велічы. Гэта ягоныя летуценьні і мэты. Ён давёў Беларусь да небясьпечнага раздарожжа, да парогу страты нашага нацыянальнага аблічча. Лукашэнка не разумее, што імітацыяй старога ніякай велічы не дасягнеш.

Расейскую веліч Беларусь пазнала ў мінулым. Карыстаючыся паэтычным пэрыфразам, беларускі паэт Васіль Зуёнак вельмі ўдала пісаў пра гэтае пазнаньне ў савецкія перабудовачныя часы:

Як-жа без Расеі
Жыць на сьвеце нам,
Без яе пасеем,
А сажнём панам?
І адны ў нас троны,
І адзін ГУЛАГ
І адзін — чырвоны
Над ГУЛАГам сьцяг.

Без такой радзімы —
Сэрцам не абняць!
Мы куды-б хадзілі
Ссылку адбываць?
Як-жа без падмогі,
Як-жа без братоў?..
Кайданы на ногі —
І ў Сібір гатоў.

За апошнія пяць з паловай гадоў свайго панаваньня над Беларусяй, Лукашэнка адкінуў наш нацыянальны сьцяг і гэрб, замяніўшы іх савецкаю выдумкай; поўнасьцю аднавіў камандавую сыстэму гаспадаркі на нашай Бацькаўшчыне; адбудаваў масавую савецкую прапагандавую сыстэму; амаль поўнасьцю зьліквідаваў беларускія школы і замяніў іх расейскімі; зачыніў выпуск большыні беларускіх газэтаў, часапісаў і кнігаў; забараніў сьвяткаваньне Дня Беларускае Незалежнасьці, абвешчанае ў 1918 годзе; аднавіў сьвяткаваньне чужога для Беларусі дня бальшавіцкага кастрычніцкага перавароту ў Расеі ў 1917 годзе, дня, які нават і ў Расеі ўжо ня лічыцца дзяржаўным сьвятам; зьнізіў важнасьць дня незалежнасьці Беларусі, узаконенага беларускім парляментам пасьля развалу савецкае імпэрыі, аб'яднаўшы яго з днём акупацыі Менску савецкім войскам 3-га ліпеня 1944 году, днём, які, наўмысна засланяючы сьвята незалежнасьці, кожны год урачыста адзначаецца ў лукашэнкаўскай Беларусі. Ва ўсіх гэтых акцыях няцяжка бачыць зварот да старога савецкарасейскага рэжыму. У гэтым звароце выкарыстоўваюцца, трэба сказаць, якраз найгоршыя аспэкты дзейнасьці гэтае нечалавечае сыстэмы.

У выніку гэтага, замоўкла Беларусь у Беларусі; сьціхла народная песьня і народная гаворка; дзяцей у Беларусі вучаць на чужой мове і ў іхныя галовы ўбіваюць чужы патрыятызм; шырока практыкуецца газэтная і кніжная цэнзура; забараняецца адзначэньне нацыянальных беларускіх сьвятаў; у назвах арганізацыяў не "радзіцца", як калісьці казалі савецкія словатворцы, ужываць словаў "патрыятычны", "народны", нават "беларускі"; прапагуецца савецка-расейская думка; высьмейваецца заходняя, асабліва амэрыканская, культура, у якой, нібыта, пануе дэкаданс і амаральнасьць; усхваляецца расейская шчодрасьць і ўмельства; падчас, нават, і дазволеных дэманстрацыяў, людзей, без дай прычыны, кідаюць за краты. У Беларусі пануе злосьць, шырыцца нянавісьць.

Але, нягледзячы на ўсё гэта, нацыянальная сьведамасьць жыве, асабліва сярод беларускае моладзі. Моладзь цікавіцца сваёю гісторыяй і нацыянальнай будучыняй. Падчас шматтысячнага «Маршу Свабоды», які адбыўся ў Менску 17-га кастрычніка мінулага году, беларуская моладзь паказала лукашэнкаўска-расейскім інтэгратарам, што яшчэ рана хаваць Беларусь.

Дык няхай тлее адраджэнскі агеньчык у шэрым попеле беларускага ўздыму, прыдушанага ў Беларусі ў сярэдзіне мінулага дзесяцігодзьдзя! Ня кідаймася ў роспач, не пакідайма веры ў тое, што разгарыцца яшчэ гэты агеньчык, у зыркім полымі якога паўстане вольная і незалежная Беларусь!

## КІРАЎНІЦТВА БЕЛАРУСІ Ў РАСЕЙСКІХ РУКАХ

**Назначэньне Ўладзіміра Ярмошына на пасаду прэм'ер-міністра Беларусі практычна завяршыла акупацыю ўсіх галоўных кіраўнічых пасадаў краіны расейскімі прышэльцамі. Сярод іх такія антыбеларусы як Уладзімір Заматалін, правая рука Лукашэнкі, міністр абароны Аляксандар Хамякоў, міністр унутраных спраў Юры Сівакоў, міністр замежных спраў Урал Латыпаў і сотні іншых менш відных расейскіх прахадзімцаў.**

**Паведамляецца, што Лукашэнку загадалі хутка рыхтаваць поўную здачу беларускае незалежнасьці Маскве... Гэтая акцыя на Захадзе ціха аналізуецца...**

# *Камуністычны рэванш – вось што адбываецца ў Беларусі*

Гутарка са Станіславам Шушкевічам



У час наведваньня Станіславам Шушкевічам Чыкага ўдалося запісаць размову з ім спецыяльна для "Беларускага Дайджэсту". Гутарыць са Станіславам Шушкевічам надзвычай цікава, таму што ягоныя ацэнкі і меркаваньні – заўсёды свае, нестандартныя, поўныя пытлівага роздуму.

- Тут, у Амерыцы, - пачаў наш госьць свой аповяд, - першае пытаньне ва ўсіх адно і тое ж: што зараз адбываецца ў Беларусі? Каб зразумець гэта, давайце вернемся на некалькі гадоў назад і паглядзім, што было тады. Па жыццёваму ўзроўню мы, вядома, саступалі прыбалтам, але астатніх пераўзыходзілі. Рэфармаваньне пасьля 1991 года павінна было быць прагрэсіўным, але па многіх прычынах гэтага не адбылося. Таму не вельмі адукаваныя людзі пачалі ўспамінаць былыя часы, тую, старую камуністычную наменклятуру. Народу казалі: вы адышлі ад савецкіх парадкаў, таму ўсім стала горш. А тут яшчэ ў Беларусь вярнулася шмат вайскоўцаў з ГДР, яны аселі ў нас, гэта былі людзі, у асноўным, з элітных войскаў, там палітрукі адыгрывалі важную ролю. І бяз гэтага ў нас канцэнтрацыя войскаў падчас гарбачоўскай перабудовы была ў 3 – 3,5 разы большая, чымсьці паўсюль у суседзяў, а тут яшчэ павялічылася вайскоўцаў. Да таго ж і прыбалты павытрэсвалі са сваёй тэрыторыі ўсю камуністычную дурноту, і яна асела ў Беларусі. Наша рэспубліка стала такім вось камуністычным адстойнікам. Нават тыя, хто ў Расіі не знайшоў сабе месца, разлічваючы там на пэўныя прывілеі, калі ў іх анічога не атрымалася, таксама сунуліся ў Беларусь. І беларускай прагрэсіўнай інтэлігенцыі стала вельмі складана ўсім гэтым сілам супрацьстаяць. У такіх вось умовах і зьявіўся Лукашэнка, абраны тады прэзідэнтам. А цяпер ён толькі займае гэтае месца. Таму адказ на пытаньне, што адбываецца зараз на Беларусі, вельмі просты: **камуністычны рэванш.**

У нас сёньня ўсё пад кантролем дзяржавы, пануе ярасны таталітарызм, дыктат маласьвядомых людзей. У свой час вядомы акадэмік Ліхачоў добра сказаў: можна прыкінуцца рэспектабельным, разумным, але нельга прыкінуцца інтэлігентным чалавекам. Але ж менавіта такі Лукашэнка. Ён разумее сваю мізэрнасьць. Ён бы хацеў увайсьці ў інтэлігентны сьвет, - за яго пішуць кніжкі і іншае, але сьвядомасьць у яго застаецца палітрукоўская.

- Але ж былі ў рэспубліцы разумныя сілы, у свой час ўзьнімалася нацыянальная інтэлігенцыя…

- Бяда ў тым, што мы спазьніліся з рэфармаваньнем, не зрабілі так, як палякі, латышы, эстонцы, чэхі, венгры. У сувязі з гэтым спазьненьнем пачаліся хістаньні у асяродку інтэлігенцыі… Калі атрымоўвалася ня так, як хацелася, вінавацілі ва ўсім народ. І дагэтуль чуюцца меркаваньні, што ў нас народ ва ўсім вінаваты. Я катэгарычна абвяргаю ўсе абвінавачваньні на адрас беларускага народу, абвінавачваньні тых, хто лічыць, што ў нас такі несьвядомы народ і ён заслугоўвае такіх кіраўнікоў. Гэта – недастойная сапраўднага інтэлігентнага чалавека пазіцыя. Таму што інтэлігенцыя павінна несьці ў народ асьвету і адукацыю, і калі яна ня здольная, ня робіць гэтага, дык не народ вінаваты, а яна, інтэлігенцыя віноўная ва ўсім. Так, я магу кінуць папрок беларускай інтэлігенцыі – яна ў значнай ступені ныцік. Народ выжывае ў гэтых умовах дзякуючы цяжкой фізычнай працы, а інтэлігенцыя расслаілася.

- Што канкрэтна ўяўляе сабой сёньня палітычная апазіцыя ў Беларусі?

- У апошні час у нас адбылося пэўнае аб'яднаньне дзевяці апазіцыйных партый. Аб'яднаньне на адзінай прынцыповай аснове: беларуская дзяржаўнасьць, незалежнасьць, канстытуцыйнасьць (на аснове вернасьці Канстытуцыі 1994 года), правы чалавека і дэмакратыя. У лік гэтых партый уваходзяць наступныя. Беларускі Народны Фронт – гэта дзьве партыі, фронт разьдзяліўся, гэта – іхнія праблемы, але і там і там ёсьць людзі дастойныя. Назаву таксама Аб'яднаную грамадзянскую партыю, нашу партыю – Беларускую сацыял-дэмакратычную Грамаду, старшынёй якой я зьяўляюся, яе праграма – вельмі правая сацыял-дэмакратыя. У гэтай суполцы і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, якая аддзялілася ад нашай. На дадзены момант актыўнай з пункту гледжаньня супрацьстаяньня рэжыму можна лічыць і камуністычную партыю, тую, якую ўзначальвае Калякін. У апазіцыі і Ліберальна-дэмакратычная партыя, начале якой Гайдукевіч. У наша аб'яднаньне ўваходзяць і іншыя партыі.

Спецыяльная місія АСБЕ ў Мінску спрабавала зрабіць усё, каб загладзіць канфлікт улады і апазіцыі. Не атрымалася. Улада фактычна не згаджаецца ні на якія перамовы, не прымае элементарных умоў, выканаць якія патрабуе апазіцыя.

- Але ж дагэтуль многія падтрымліваюць Лукашэнку, ды і ён часта спасылаецца на сваю папулярнасьць у народзе…

- Зноў падкрэсьліваю: уладу ў рэспубліцы трымаюць прымітывы і невукі начале з узурпатарам – найбольш яскравым іхнім прадстаўніком. Яны ня ведаюць, не разумеюць і па прычыне сваёй абмежаванасьці ня здольныя зразумець, як можа быць нармальна арганізавана дзяржава, наладжана жыцьцё, як яны ж могуць жыць у такой нармальнай дзяржаве лепш, нават калі яны будуць складаць ніжні слой сярэдняга клясу. Тое, што ў Беларусі ўсё вызначае толькі адзін чалавек, было выгадна Расіі, і яна такога чалавека падтрымала. І яго нелегітымнасьць, па сутнасьці, таксама падтрымала. Гэта вялікая выгода – мець у Мінску такога неадукаванага дыктатара, які ня можа адступіцца ад расейскіх жаданьняў ні на крок, ні на паўкрока.

Такім чынам Беларусь апынулася ў зоне інтарэсаў Расіі, якія цяпер трактуюцца толькі як геапалітычныя. Пра гэта гавораць шэраг дакументаў, у тым ліку і навагодні артыкул Уладзіміра Пуціна, і Тэзісы Савета па нацыянальнай бясьпецы Расіі, і зацьверджаная нядаўна Канцэпцыя разьвіцьця расійскага грамадства. І ва ўсіх Беларусь разглядаецца як дапаможны фактар. У Маскве нават не саромеюцца казаць, што трэба выкарыстаць сёньняшняе цяжкое эканамічнае становішча Беларусі, каб там не адрадзіліся сілы самаідэнтыфікацыі, самасьцьвярджэньня, нацыянальнай самасьвядомасьці. А дзеля гэтага трэба інкарпараваць Беларусь у склад Расіі. Нармальная, адукаваная, сапраўды беларуская інтэлігенцыя імкнецца супрацьстаяць усяму гэтаму, але, на жаль, яна вельмі слаба і марудна папаўняе свае сілы.

- Сёньня кіруе Расіяй новы, малавядомы чалавек. Як вы ацэньваеце тое, што там адбываецца?

- У той краіне прыхільнікі рэформаў, рынкавай эканомікі, захаваньня правоў чалавека і дэмакраты стаміліся ад непрадуктыўных спробаў зьмяніць нешта цывілізаваным спосабам. Вось яны і думаюць: трэба вывесьці на арбіту магутнага адукаванага дыктатара, і ён жалезнай рукой усталюе рынкавую эканоміку і ўсё астатняе, а потым мы прыйдзем да дэмакратыі. Інакш кажучы, не зьнізу, а зьверху. Прыгадаем: у нас у Беларусі вывелі на арбіту малаадукаванага дыктатара як раз адукаваныя людзі. Той жа Ганчар, які так трагічна зьнік, той жа Лябедзька, які цяпер адзін з лідэраў апазіцыі, і іншыя. Яны тады падтрымлівалі менавіта Лукашэнку, калі той імкнуўся да ўлады. Яны лічылі, што Лукашэнка – тупая сіла, якая спадабаецца простаму народу, "а мы будзем рабіць усё, што захочам". Не адбылося, і погляды гэтых людзей зьмяніліся.

Але ж Пуцін – адукаваны чалавек. Ягоны пераднавагодні артыкул – гэта фактычна заклік да вялікадзяржаўнасьці і адначасова канстатацыя таго, што зараз няма асновы для дзяржаўнасьці, няма асновы для імперскасьці. Я так тлумачу гэты артыкул: дзяржаўнасьць у Расіі можа трымацца толькі на ядзерным арсенале. І гэта магчыма толькі тады, калі Расія знаходзіцца ў сучасным сьвеце на ўзроўні ўзаемнага гарантаванага зьнішчэньня. УГЗ – ёсьць такі страшны тэрмін. Расія зараз знаходзіцца вышэй гэтага ўзроўню. І каб яго дасягнуць, трэба было так абіраць свайго падаткаплацельшчыка, што, даруйце, пра ўздым эканомікі і гаворкі быць ня можа… Таму ўсё гэта трэба ўлічваць, разумеючы, што ўжо даўно час наблізіць Расію да цывілізаванага сьвету. Хочацца думаць, што Пуцін – чалавек, у якога дастаткова розуму і адукацыі, каб усё гэта разумець. Але ж ён – выхаванец КГБ…

Зрэшты, нельга забываць, што ўся расейская эліта выхаваная на імпэрскасьці. Што аб'ядноўвае яе, апрача гэтага? Ды проста нічога. Ад Лужкова і Жырыноўскага да Зюганава, каго хочаце, - усе яны імпэршчыкі. Кіраваць жа Расіяй можа толькі дыктатар. Ці будзе гэта цывілізаваны дыктатар – ня ведаю, пабачым.

- У апошні час зноў чуецца рэзкая крытыка таго, што адбылося у снежні 1991 года ў Белавежскай пушчы, крытыка тых дакументаў, якія вы падпісалі разам з Ельцыным і Краўчуком. Нядаўна ў Маскве Лукашэнка сказаў, і толькі гэтую фразу вылучылі ў тэлевізійнай трансляцыі, што падпісаньне дагавору аб аб'яднаньні Расіі і Беларусі – гэта першы крок да аднаўленьня некалі вялікай краіны. Што вы можаце сказаць у сувязі з гэтым?

- Я магу паўтарыць толькі тое, што казаў неаднойчы: я ганаруся тым, што падпісаў ад імя Беларусі тыя Белавежскія пагадненьні. Крыху пазьней яны амаль аднагалосна былі ратыфікаваны нашым парламентам. Мы толькі зафіксавалі распад імперскай дзяржавы, які да таго часу фактычна адбыўся. Усе рэспублікі перад гэтым сталі самастойнымі, незалежнымі, іх парламенты прынялі рашэньні аб іх поўным суверэнітэце. Мы прапанавалі новую форму раўнапраўнага

аб'яднаньня. Мы пазбеглі магчымага югаслаўскага варыянту разьвіцьця падзей, а там і дагэтуль ліецца крою…

А зараз, пры так званым аб'яднаньні Расіі і Беларусі зусім ня ўлічваюцца эканамічныя ўзаемаадносіны. Трэба ісьці па шляху, які прайшла Еўропа: збліжэньне перш за ўсё эканамічнае, паступовае, крок за крокам. Але не на ідэялагічнай аснове. Фармальна Расія і Беларусь нібыта аб'ядналіся: у жабрацтве, але будзем умацоўваць дзяржаўнасьць Расіі. Але ж трэба ўмацоўваць тую дзяржаўнасьць, якая нясе дабрабыт людзям, а не жабрацтва. Таму любыя размовы аб аднаўленьні былога Савецкага Саюза – гэта размовы аб аднаўленьні турмы народаў, аб аднаўленьні імпэрыі зла.

- Якая мэта вашага цяперашняга прыезду ў ЗША?

- Зараз у сувязі з цяперашняй беларускай сітуацыяй мне трэба многае перачытаць, пашукаць у літаратуры, каб лепей разабрацца ў некаторых пытаньнях. Так здарылася, што мне прапанавалі папрацаваць у Вашынгтоне ў паліталагічным гуманітарным дасьледчым цэнтры Вудра Вільсана. Мне далі магчымасьць працаваць над абранай тэмай. Я павінен падрыхтаваць на гэту тэму дасьледваньне, потым выступіць з дакладам перад прадстаўнічай аўдыторыяй. Буду там да канца сакавіка, потым вярнуся ў Беларусь. Тэма мая – "Шляхі рэфармаваньня Беларусі" або "Праблема сістэмнай трансфармацыі Беларусі". Мне хочацца расказаць, якім я бачу будучае Беларусі, у тым сэнсе, у якім мне хацелася б яго бачыць. "Ад тутэйшасьці да нацыянальнай дзяржаўнасьці" – так таксама можа гучаць мая тэма, яе падтэкст. Прытым – я ўвесь час гэта падкрэсьліваю – ідэя нацыянальнай дзяржаўнасьці Беларусі аніколькі не супярэчыць прынцыпу адкрытага грамадства. Я сустракаўся ў Вашынгтоне з намесьнікам кіраўніка Дзяржэпартаменту Стробам Тэлбатам і ўпаўнаважаным па справах СНД Сцівенам Сестановічам. З гэтымі дзеячамі я знаёмы даўно, мы гаварылі пра многія праблемы, звязаныя з Беларусьсю і краінамі СНД. Былі яшчэ канкрэтныя дзелавыя сустрэчы ў Дзяржэпартаменце, сустрэчы з іншымі палітычнымі і грамадскімі дзеячамі. Амерыканцы ж амаль фанаты у сэнсе стандартаў дэмакратыі і правоў чалавека. У адносінах да Беларусі я не адчуў адступленьняў ад такіх стандартных уяўленьняў. На жаль, многія краіны Еўропы з гэтага пункту гледжаньня прыносяць толькі расчараваньне. Але дзьве краіны сёньня ў гэтых адносінах вылучаюцца – Злучаныя Штаты і Польшча. Яны прынцыпова і рэзка вядуць палітыку, накіраваную на захаваньне стандартаў па правах чалавека. Яны адмоўна ставяцца да антыдэмакратычнага таталітарызму ў Беларусі і робяць у сувязі з гэтым прадуманыя заявы.

- І ўсё ж: што чакае Беларусь? Як можа ўсё зьмяніцца?

- Многія сёньня ў Беларусі гавораць: жывем жудасна, невыносна. Але ж каб быў бы Кэбіч на чале дзяржавы, мне здаецца, было б яшчэ горш. Сёньня, вядома, эканамічная сітуацыя ў рэспубліцы зусім кепская. Адбываецца поўная інкарпарацыя ў Расію. Там зараз больш ліберальная эканоміка. Але дзяржаўнасьці там трымацца няма на чым. Пуцін піша, што патрэбны 15 – 20 гадоў, каб дацягнуць сярэдняга расіяніна да ўзроўню сярэдняга партугальца. Я мяркую, што рэальна трэба болей, гадоў 40. А вялікадзяржаўныя настроі растуць там вельмі хутка і нястрымна. Беларусь патрэбна Расіі чыста з-за геапалітычных меркаваньняў. І нашай рэспубліцы ніхто не дапаможа, трэба абапірацца толькі на ўласныя магчымасьці. Вельмі патрэбна нам высокая палітычная сьвядомасьць. Таму для нас зараз, лічу, вельмі важныя адукацыйныя праграмы, а на іх пакуль што не зьвяртаецца асаблівай увагі. Будучае – за моладзьдзю, за адукаванай моладзьдзю. Самаадукацыя ідзе вельмі марудна і складана, доступ да яе мае параўнаўча невялікая колькасьць людзей.

Я прыхільнік нацыянальнай дзяржаўнасьці Беларусі, гэта зусім не супярэчыць прынцыпам адкрытага грамадства. Як і прыхільнік выпакутаванай нацыянальнай беларускай сымболікі – бел-чырвона-белага сьцягу і герба "Пагоня". Калі ўваходзіш у Варшаўскі гістарычны музэй, то першая карціна, якую там бачыш, гэта "Бітва пад Оршай у 1525 годзе", менавіта там такія сьцягі… Пытаньня няма, адкуль гэта ідзе і чаму. Таму я зноў вяртаюся да сваёй ідэі аб важнасьці і неабходнасьці ў нашай рэспубліцы інтэнсіўных адукацыйных працэсаў. Але ж без дапамогі з-за мяжы гэта практычна зрабіць нельга. На жаль, замежная дапамога пакуль на гэта не накіравана, яна ідзе, у асноўным, па Чарнобыльскай праграме. Гэта добра, але дзяржаўныя ўлады праводзяць яе апошнім часам праз свае структуры, і куды яна ідзе – фактычна невядома. А каб былі адукацыйныя праграмы, цяжка было б схаваць, куды такая дапамога магла б пайсьці. Я заўсёды спасылаюся на такі прыклад: з 80-га па 90-ты гады ў Польшчы нейкую адукацыю за мяжой, ад доктарскай ступені да двухтыднёвай школы дэмакратыі, атрымаў адзін мільён чалавек. І калі ў Беларусі чвэрць мільёна атрымае такую адукацыю, лічыце, што ў нас ня будзе праблем з трансфармацыяй рэспублікі ў дэмакратычную, рынкавую, з захаваньнем усіх правоў чалавека. Трэба ісьці гэтым шляхам і настройваць сябе на гэты шлях трывала і надоўга.

Я не выключаю і іншыя падыходы, зьмены. Усё можа быць: пераварот, зьмяшчэньне, змова зверху, альбо камбінаваны варыянт. У Беларусі хутчэй магчымы камбінаваны варыянт, таму што сама наменклятура ня можа быць задаволена ўзурпатарам сёньняшняга дня, яна таксама трапляе пад прэс, адчувае ўціск з боку гэтага пачварнага механізму. Прыгадайце гісторыю з былым міністрам сельскай гаспадаркі Лявонавым, з Захарэнкам і Ганчаром, якія бясьследна зьніклі; шмат такіх чыноўнікаў, якія не вельмі прыкметныя, але яны ведаюць, што заўтра могуць быць выкрэслены са сьпісаў… Такая наменклятура можа пайсьці на пераварот, але гэта мала верагодна. Таму трэба нармальна, планамерна ўзьдзейнічаць на ўладу зьнізу. Паўтараю: адукацыя – вось што зараз, як мне здаецца, самае галоўнае. Пакуль ня будзе у гэтым сэнсе дапамогі, мы будзем у ліку апошніх на шляху да дэмакратыі. Але ж гэты шлях непазьбежны. Мы занадта доўга ішлі ня ў тым кірунку, і цяпер трэба вярнуцца і пайсьці правільнай дарогай.

***Размову вёў Ванкарэм Нікіфаровіч.***

## ЦІ ВЕРНЕЦЦА НА БЕЛАРУСЬ ЯДЗЕРНАЯ ЗБРОЯ?

**«Рабочы»**

Днямі ў Расеі прынятая новая дактрына нацыянальнай бясьпекі, якая, паводле ацэнкі некаторых экспэртаў, можа зрабіць сьвет больш небясьпечным, чым ён быў месяц таму. А прадстаўнік беларускага Міністэрства абароны заявіў, што пры пэўных абставінах на тэрыторыю Беларусі можа быць вернутая ядзерная зброя.

Новая дактрына нацыянальнай бясьпекі Расеі вызначаецца шмат якімі палажэньнямі, але галоўнае, што выклікала засьцярогу паніжаны так званы парог выкарыстаньня ядзернай зброі.

Папярэдняя дактрына, прынятая тры гады таму, прадугледжвала выкарыстаньне ядзернага арсэналу толькі ў выпадках зьнешняй пагрозы нацыянальнаму сувэрэнітэту. Пры гэтым мелася на ўвазе, што і агрэсар выкарыстоўвае ядзерную зброю ці патэнцыйна можа яе скарыстаць. Цяпер - ядзерная зброя можа быць прыменена і ў тых выпадках, калі праціўнік ня мае ядзернай зброі, аднак расейскае камандаваньне скарыстала ўсе іншыя магчымыя спосабы.

Папросту кажучы, калі раней ядзерны арсэнал разглядаўся хутчэй як аргумант стрымліваньня тых, хто валодае аналягічнай зброяй, дык цяпер ён выступае ў якасьці актыўнага сродку, скарыстаць які, пры вялікім жаданьні, можна пры розных нагодах.

Амерыканскі эксперт Дон Джэнсан дзесяць гадоў таму ўдзельнічаў у якасьці інспэктара ў працэсе ядзернага раззбраеньня тагачаснага СССР. Змену расейскай ядзернай дактрыны ён пракаментаваў так:

— *Мне падаецца, тут адлюстраваньне слабасьці, а ніяк ня моцы дзяржавы. Звычайныя ваенныя падразьдзяленьні Расеі не падрыхтаваныя ў прафэсыйным сэнсе, пра што сьведчаць і няўдачы ў чачэнскай вайне. Камандаваньне стратэгічных сілаў бачыць, што іхняя зброя хутка стане састарэлай -- у той час як ЗША пляную стварыць антыракетную сыстэму. Расейскі ўрад бачыць вялікую пагрозу з боку НАТА і навокал Захаду. І расейскі ўрад лічыць патрэбным рэагаваць на гэтыя выклікі, нягледзячы на тое, што яму трэба знаходзіць грошы і рэсурсы на ўнутраныя рэформы, асабліва ў галіне эканомікі. Што тычыцца магчымасьці вяртаньня ў Беларусь ядзернай зброі... Я ня думаю, што так адбудзецца, бо гэта б парушыла шэраг міжнародных эўрапейскіх пагадненьняў у справе бясьпекі. Ды і ў ваенным аспэкце такі крок не нашмат паспрыяў бы Расеі. Яна і без таго мае ядзерную зброю на сваёй тэрыторыі. Разьмяшчэньне ж такой зброі на тэрыторыі Беларусі , Украіны альбо Казахстану паставіла б пад пагрозу бясьпеку Заходняй Эўропы, што забаронена міжнароднымі пагадненьнямі. Відавочна, размовы пра вяртаньне ядзернай зброі ў Беларусь — заявы, разьлічаныя на палітычны эфэкт, мэта якога — яшчэ раз нагадаць пра ролю Расеі на міжнароднай арэне.*

Яшчэ больш рашуча выказаўся прэзыдэнт украінскага Цэнтра палітычных дасьледваньняў Анатолі Грыцэнка, да якога таксама звярнулася беларуская рэдакцыя "Свабоды":

— Гэта прывяло б да маланкавых дзеяньняў з боку Украіны. Гэта рэзка пагоршыла б адносіны Кіева і з Масквой, і з Менскам, а таксама паклікала б асімітрычныя адказы Кіева.

## БЕЛАРУСЫ ЎВАСКРАСАЮЦЬ ЯК... БЕЛАРУСЫ

**("Свободные Новости")**

АЛЯКСАНДР КОКТЫШ

У гасцях у "СН" вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір АРЛОЎ

- Наколькі нам вядома, зусім нядаўна ўбачыла свет ваша новая кніга, напісаная ў сааўтарстве з Генадзем Сагановічам. Які складваецца яе лёс?

- Сапраўды, у Вільнюсе 5-тысячным накладам былі надрукаваныя "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі". Як тут не ўспомніць вядомы лацінскі афарызм "Habent sua fata libelli" - што ў перакладзе значыць: кнігі маюць свой лёс. Першую размову пра магчымасць напісання "Вякоў" мы з Генадзем вялі ў 1991 годзе, якраз на другі дзень путчу. У грамадстве панавала пэўная разгубленасць і насцярожанасць. Але гэта нас не спыніла.

- І тым не менш атрымліваецца, што не надта вялікую кнігу вы ўдвух пісалі амаль дзесяцігодку...

- Безумоўна, мы напісалі яе раней. І, вядома, у любой дэмакратычнай краіне кніжку такога кшталту ўжо даўно б надрукавалі на радзіме, а не ў сталіцы суседняй дзяржавы. Калі б улада клапацілася пра будучыню народа, пра ягоную гістарычную свядомасць, без якой немагчымая свядомасць НАЦЫЯНАЛЬНАЯ. Швейцарцы, напрыклад, размаўляюць на чатырох мовах, але гэта ўсё роўна адзіная нацыя. І робіць яе такой агульная гістарычная памяць.

- Сваёй чарговай кнігай вы спрабуеце вярнуць беларусам іх памяць?

- "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" - гэта спроба асэнсавання нашага гістарычнага шляху. Пачынаецца кніга з першай дакументальнай даты беларускай гісторыі - 862 года, калі ўпершыню ўзгадваецца патрыярх беларускіх гарадоў Полацк. Заканчваецца датай абвяшчэння Беларускай народнай рэспублікі - 25 Сакавіка 1918 года. У кнізе чатыры раздзелы: "Старажытныя беларускія княствы", "Вялікае княства Літоўскае", "Беларусь у Рэчы Паспалітай" і "Беларусь у Расійскай імперыі". Гэта адно з першых выданняў, дзе змешчаныя паралельныя хрыналагічныя табліцы гістарычных падзеяў у Беларусі і ў свеце, а не праводзяцца паралелі выключна з тым, што адбывалася ў гэты час у Расіі.

Калі праходзіла прэзентацыя "Вякоў" у бібліятэцы імя Янкі Купалы, у невялічкую залу, разлічаную максімум на 150 чалавек, набілася не менш за паўтысячы. Прычым пераважна прыйшла моладзь. Гэта сведчыць не столькі пра запатрабаванасць менавіта нашай кнігі, а пра запатрабаванасць беларускай гісторыі ўвогуле. Мы пачынаем вяртацца да сваіх вытокаў, тэндэнцыя пакрысе набірае моц.

- На мой погляд, пяць тысяч экзэмпляраў - вельмі мала для дзесяцімільённай Беларусі.

- Безумоўна, гэта больш чым недастаткова. Каб было выдадзена ў 10 разоў больш, я ўпэўнены, што кніга і тады не заляжалася б у кнігарнях.

- Можа, дзяржава адмовілася вас падтрымліваць, таму што не так як трэба паставілі гістарычныя акцэнты?

- Я пісьменнік з універсітэцкім дыпломам гісторыка. Мой калега - гісторык прафесійны і, на маю думку, адзін з найбольш перспектыўных супрацоўнікаў Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук (дарэчы, у свой час кніга атрымала станоўчае навуковае заключэнне гэтага інстытута і была рэкамендаваная ім да друку). Сагановіч належыць да вучоных новай генерацыі, новага мыслення. Для іх гісторыя Беларусі - не частка гісторыі Расіі ці Польшчы, а гісторыя незалежнай дзяржавы. Разам з тым з сярэдзіны дзевяностых гадоў у Беларусі актывізаваліся спробы рэанімацыі гістарычных міфаў, створаных расійскай гісторыяграфіяй не адно стагоддзе таму. Кшталту таго, што Беларусь ніколі не мела сваёй дзяржаўнасці. Што нашы землі ўтульна сябе адчувалі ў быццам бы вялікай і магутнай Кіеўскай Русі. А казкі пра "ўз'яднанне" з Расіяй у канцы XVIII стагоддзя?..

- Пік папулярнасці гістарычнай літаратуры быццам бы прайшоў. На якую аўдыторыю разлічана ваша кніга?

- На самую масавую - ад школьніка да пенсіянера. Падчас прэзентацыі да нас сярод моладзі падыйшоў з кнігай і вельмі пажылы мужчына, пазней аказалася, што яму 89 гадоў, і папрасіў у аўтографе назваць яго "старажытным беларусам". Мы з задавальненнем гэта зрабілі. Так што наконт піку папулярнасці я б з вамі паспрачаўся. Шкада, што сёння цяжка прабіцца да чытача з гістарычнай літаратурай праз дзяржаўныя выдавецтвы.

- А з якой лёгка?

- Думаю, што не было праблемаў з выданнем выбраных прамоў А.Р.Лукашэнкі. Праўда, у той кнізе я так і не знайшоў назвы выдавецтва, якому павінны быць удзячныя чытачы.

- Вы не баіцеся, што асобныя настаўнікі, убачыўшы ў руках вучняў вашу кнігу, запатрабуюць скласці для яе вогнішча?

- Усё залежыць ад асобы настаўніка. Ды і ад вучня, і студэнта таксама. Знаёмая універсітэцкая выкладчыца расказвала мне, як аднойчы на лекцыі выказала думку, што другую сусветную вайну развязалі Гітлер і Сталін. Адразу ўскочыў нейкі юнак і літаральна залямантаваў, што не дазволіць чапаць светлае імя таварыша Сталіна.

Што да запатрабаванасці гістарычнай літаратуры, то пасля выхаду ў свет маёй кнігі "Адкуль наш род" я атрымаў сотні дзве лістоў з просьбамі пра другое выданне. "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" - своеасаблівы адказ на гэтыя лісты. Тым больш, дрымучага невуцтва хапае і ў найвышэйшых эшалонах улады. Зусім нядаўна дэпутат Нацыянальнага сходу Руслан Ігнацішчаў у сувязі з чарговым этапам "уз'яднання" Беларусі і Расіі заявіў, што, аказваецца, самастойнага беларускага народа наогул не існавала, і што дамову аб стварэнні "саюзнай дзяржавы" можна параўнаць з разбурэннем яшчэ адной берлінскай сцяны. Узгадваецца таксама, як дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, дарэчы генерал, у сваім выступе пафасна абвясціў, што без рускіх мы б не здолелі вызваліцца нават ад татара-мангольскага прыгнёту. Ніхто яму так і не растлумачыў, што на Беларусі, у адрозненне ад Расіі, гэтага прыгнёту ніколі не было.

А чаго вартыя прызнанні некаторых нашых вядомых "палітыкаў" у тым, што ідэалам дзяржаўнага мужа яны лічаць Пятра І. Таго самага расійскага імператара, салдаты якога ўзарвалі Сафійскі сабор у Полацку. А яшчэ раней сам Пётр разам з прыдворнымі ў час набажэнства ў тым жа саборы ўласнаручна забіў пяць уніяцкіх святароў. Гэты выпадак меў вялікі рэзананс у Еўропе.

- Нашы "вярхі" аж пішчаць, так хочуць трапіць назаўжды зноў у абдымкі Расіі, а не Еўропы. Ранейшае жыццё разам з Масквой для беларусаў прынесла больш шкоды ці карысці?

- Наслухаешся некаторых інтэгратараў, дык можа прысніцца, што наша братэрства з Масквой пайшло ледзь не з першабытна- абшчынных часоў. Але, на вялікі жаль, гісторыя ўзаемаадносін нашых дзвюх краін на працягу многіх стагоддзяў - гэта, найперш, гісторыя войнаў, у выніку якіх крамлёўскія ўладары імкнуліся захапіць нашы, па версіі расіян "исконно русские", землі. Нельга не ўспомніць вельмі распаўсюджаны міф, згодна з якім самай кравапралітнай вайной для нас была другая сусветная, калі Беларусь страціла кожнага чацвёртага. Але жудасная вайна з Расіяй у 1654-1667 гг. забрала палову насельніцтва нашай краіны.

- Нейкай вельмі сумнай атрымліваецца гісторыя нашых стасункаў з Расіяй. Няўжо ў ёй не было светлых момантаў?

- Я далёкі ад таго, каб спрошчваць гістарычныя падзеі. Былі ў нас з Масквой і эканамічныя, і культурныя сувязі. Праўда, адразу заўважу: блізкія па мове, мы зусім розныя па ментальнасці. Найперш, беларусы бясконца далёкія ад імперскіх амбіцыяў.

Культура ж ішла з Еўропы ў Расію праз Беларусь. Часам гэты шлях быў драматычным, калі не трагічным. Напрыклад, Францішак Скарына прывёз свае выданні ў Маскву і прапанаваў распачаць там кнігадрукаванне. У адказ кнігі проста спалілі. Пазней расійскі першадрукар Іван Фёдараў, дарэчы, беларус па паходжанні, вымушаны быў шукаць паратунку не дзе-небудзь, а ў Вялікім княстве Літоўскім. Калі наш славуты суайчыннік Сімяон Полацкі адчыніў у Маскве незалежную друкарню, колькасць друкарняў на тэрыторыі ўсёй расійскай дзяржавы падвоілася. Была адна, стала дзве. У той самы час у дзяржаве нашых продкаў такіх друкарняў налічвалася 134. Дарэчы, па майму сцэнарыю зняты дакументальны фільм пра Сімяона Полацкага. Можа, таму і не выходзіць ён на тэлэкраны, што там зашмат падобных нявыгадных для "нашага векавога сяброўства" фактаў? Наогул, мы павінны ясна ўсведамляць: у адрозненне ад Беларусі Расія ніколі не ведала ні эпохі Рэнесансу, ні эпохі Рэфармацыі, якія вызначылі шляхі развіцця еўрапейскай цывілізацыі.

- Ці можна правесці гістарычную паралель паміж сённяшняй Беларуссю і яе мінуўшчынай?

- За стагоддзе да вышэй згаданай вайны (1654 - 1667), якую сучаснікі называлі "крывавым патопам", была вайна Лівонская. Калі войскі Івана Грознага "вызвалялі" Беларусь, руйнуючы яе гарады і вёскі. Тады, у 1569 годзе Вялікаму княству Літоўскаму прыйшлося пайсці на унію з польскай Каронай. Пачалася паланізацыя Беларусі, беларуская мова праз стагоддзе страціла свой дзяржаўны статус і захавалася толькі ў асяроддзі сялянства, часткі гарадскога насельніцтва і ва уніяцкіх храмах. Тут няма непасрэдных аналогій, але гэтыя падзеі сведчаць пра небяспеку любой дзяржаўнай уніі з моцным суседам.

- Вы гаворыце ўвесь час пра уніяцтва на Беларусі, якая падаецца цяпер як спрадвечна праваслаўная краіна.

- Яшчэ адзін міф. У канцы XVIII стагоддзя 80% насельніцтва Беларусі былі грэка-каталікамі або уніятамі, якіх потым пасля захопу Беларусі Расіяй гвалтоўна перавялі ў праваслаўе.

- А ці можна знайсці ў беларускай гісторыі персанаж, які быў падобны на цяперашняга "манарха" нашай дзяржавы?

- Гістарычныя аналогіі - рэч рызыкоўная, але можна ўспомніць вядомага Ілжэдзімітрыя ІІ, былога настаўніка ў Шклове, якога хацелі пасадзіць на маскоўскі трон. Калісьці ў "Свободных новостях" я пісаў пра гэта ў нарысе "Шклоўскія прайдзісветы". Сярод ягоных герояў быў яшчэ адзін вядомы гістарычны персанаж: былы фаварыт імператрыцы Екацярыны граф Сямён Зорыч, які за грахі быў высланы з Пецярбургу ў той самы Шклоў. Ён пачаў ператвараць горад у культурную сталіцу краю, заняўся эканамічнымі "рэформамі", але скончыў сувяззю з фальшываманетчыкамі...

- Чым займаецца наша нацыянальна свядомая інтэлігенцыя, калі пачынаем забываць, што мы беларусы? Не нагадвае вам усё гэта маўчанне ягнятаў, якія асуджана чакаюць сваёй незайздроснай долі?

- А хіба не беларуская інтэлігенцыя ішла ў першых шэрагах "Маршу свабоды"? Нядаўна я даведаўся з незалежнай прэсы пра тое, што нібыта толькі расіяне дбаюць пра лёс Васіля Быкава, а беларуская інтэлігенцыя пра яго забылася. Але ж Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў адразу пасля сумна вядомай перадачы БТ, дзе зняважылі наш нацыянальны гонар, прыняла заяву ў абарону Васіля Уладзіміравіча. Іншая рэч, што ў кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў не хапіла мужнасці перадаць яе ў друк у першапачатковым выглядзе.

Ведаеце, у адных людзях жыве Бог, у другіх - д'ябал, а ў трэціх - адны мікробы.

Дарэчы, яшчэ адзін шырока распаўсюджаны міф. Быццам бы ў Беларусі, як любіў паўтараць Машэраў, ніколі не было дысідэнтаў. У 1973-1974 гг. у нас, як і ў ва ўсім СССР была кампанія па выкрыцці нацыяналістаў. Машэраў выступіў за тое, каб іх не саджаць, а проста звольніць з працы: таму што, маўляў, у гэтых людзей няма ні перспектыў, ні каранёў.

Думаю, цяпер нехта вельмі шкадуе, што не адправілі за краты З. Пазьняка, М. Чарняўскага, С. Міско і іншых. Іх прозвішчы можна знайсці ў каталогу непадцэнзурных беларускіх выданняў, у даведніку "Дэмакратычная апазіцыя Беларусі 1956-1991", выдадзеных "Архівам найноўшай гісторыі".

- Думаецца, гэта былі рэальныя барацьбіты за незалежнасць Беларусі. Чаго не скажаш пра некаторых самаабвешчаных сённяшніх "змагароў за дэмакратыю", такіх фантомаў-прывідаў. Уладзімір Някляеў з гэтай абоймы?

- Я думаю, што ў Някляева былі важкія падставы пакінуць Беларусь. І найперш, гэта былі прычыны палітычныя. Таму што Някляеў, пры ўсёй сваёй блізкасці да ўлады ці гульні з ёю заставаўся перакананым прыхільнікам незалежнасці Беларусі. Ён не мог падтрымліваць злачынны гандаль яе суверэнітэтам. Як старшыня Саюза пісьменнікаў ён паслядоўна імкнуўся на верхніх паверхах улады бараніць беларускую культуру, мову. Безумоўна, гэта падабалася далёка не ўсім...

- Можа, мы перабольшваем яго памкненні, як намаганні і ролю беларускіх літаратараў увогуле? Нават у савецкія часы да пісьменнікаў ставіліся з большай павагай, чым цяпер, і яны мелі большую вагу ў грамадстве.

- Тады ўлада сапраўды ажыццяўляла так званы клопат пра беларускую культуру. З аднаго боку,

напрыклад, Максім Танк ці Пятрусь Броўка мелі прывілеі, вышэйшыя ўзнагароды, а з другога - яны былі пазбаўленыя, па вялікім рахунку, чытача. Беларускія школы зачыняліся, у гарадах іх увогуле не было. Улада прымушала пісьменнікаў маўчаць пра жорсткую палітыку русіфікацыі, якая праводзілася ў часы БССР і якая працягваецца цяпер. Толькі, можа, у больш адкрытай і цынічнай форме.

Мне вельмі падабаецца выраз Міхаіла Прышвіна: "Літаратура ўваскрэсне толькі тады, калі займацца ёй будзе нявыгадна". Літаратурны працэс цяпер, калі казаць пра дачыненні пісьменніка і дзяржавы - гэта мізэрныя наклады, смешныя ганарары. Існуюць чорныя спісы, каго не друкаваць у дзяржаўных выданнях, каго не пускаць на радыё і тэлебачанне, а каго ў мэтах "прафілактыкі" раз-пораз "паліць" брудам у СМІ.

І разам з тым я ведаю, што цікавасць да літаратуры, да мовы, гісторыі не знікае, а, нягледзячы на шматлікія перашкоды, узрастае. Рэферэндум 1995 года, які пазбавіў дзяржаўнага статусу нацыянальны сцяг і герб і, па сутнасці, панізіў статус беларускай мовы, быў вельмі моцным ударам па нашай самасвядомасці. Многія з маіх калег-літаратараў, гісторыкаў, выкладчыкаў апынуліся ў глыбокім накаўце. Мой тэлефон адпачываў амаль два гады - мяне ўжо не запрашалі выступаць у школы, інстытуты, бібліятэкі. Але прыйшоў час - мы зноў адчулі сваю запатрабаванасць. Напрыклад, у 1998 годзе я разам з В. Быкавым, Р. Барадуліным, С. Законнікавым, В. Сёмухам і іншымі пісьменнікамі шмат ездзіў па краіне ў межах праграмы "Наш дом - Беларусь XXI стагоддзя". Нейдзе нам не давалі магчымасці выступаць перад масавай аўдыторыяй. Там жа, дзе не паспявалі "перакрыць кісларод", заўсёды былі аншлагі. У Гродне за пяць дзён на гэтых літаратурных сустрэчах мы мелі не менш за 10 тысяч слухачоў. А ў мясцовым універсітэце ўвогуле прыйшлося вытрымаць трохгадзінны шквал пытанняў па самых розных надзённых праблемах.

Так што не ўсё так безнадзейна, як гэта камусьці здаецца.

- І гісторыю як гуманітарную дысцыпліну, як навуку, як адну з разнавіднасцей літаратуры нельга назваць у пераносным сэнсе ўчарашнім днём?

- Ні ў якім разе. Існуе безліч азначэнняў гісторыі. Напалеон характарызаваў яе як "плоць часу", Дзюма называў "цвіком, на які ён вешае свае карціны". Нехта сказаў, што гісторыя - кніга, якую пішуць пераможцы. Мне больш даспадобы азначэнне Жуля Мішле: "Гісторыя - гэта ўваскрашэнне".

Разам з нашай гістарычнай памяццю мы цяпер уваскрасаем як нацыя. Як еўрапейскі народ. Падпісваючы нашу з Генадзем Сагановічам кнігу, я жадаю сваім сябрам і знаёмым яшчэ дзесяць вякоў беларускай гісторыі. Не магу не пажадаць гэтага і ўсім чытачам "Свободных новостей".

## Станіслаў Шушкевіч у Чыкага

Нядаўна Чыкага наведаў Станіслаў Шушкевіч, вядомы беларускі навуковец, грамадскі і палітычны дзеяч, былы Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі, кіраўнік апазіцыйнай партыі Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада. Прыехаўшы па справах ў Злучаныя Штаты, ён, верны даўняму школьнаму сяброўству, зазваніў былым аднакласнікам, што жывуць цяпер у Чыкага. Тыя адразу ж запрасілі яго, - так ён апынуўся ў гэтым горадзе.

Сябры пастараліся паказаць госцю многія цікавыя мясціны даўнтаўна і прыгарадаў, пазнаёміць з выдатнымі помнікамі архітэктуры і мастацтва, што захоўваюцца ў Чыкага. Асаблівую цікавасць Станіслава Шушкевіча выклікалі шэдэўры Марка Шагала – мазаікі "Чатыры часіны году" і "Вокны Амерыкі", апошняя работа майстра – габелен "Іоў". Ва ўсіх гэтых творах чытаецца і беларускі матыў, нагадваюцца знаёмыя персанажы шагалаўскіх карцін, бачны і абрысы роднага Віцебска... У чыкагскім раёне, дзе жывуць імігранты апошніх гадоў, Станіслава Шушкевіча адразу пазнавалі, падыходзілі да яго і проста на вуліцы, і ў крамах, задавалі шматлікія пытаньні, асабліва тыя, хто нядаўна пакінуў бацькаўшчыну.

Вельмі цёплая, незабыўная сустрэча са Станіславам Шушкевічам адбылася ў Беларускай праваслаўнай царкве сьвятога Юр"я. Госьць пабываў на багаслужэньні, якое вёў айцец Дзімітры Бажко. Прывітальнымі словамі ў клюбе царквы яго сустрэў старшыня Беларуска-амерыканскай нацыянальнай Рады ў Чыкага сп. Міхась Каленік. Дзяўчаткі з музычна-танцавальнага беларускага гуртка "Лянок", што ў апошнія гады пасьпяхова працуе пры царкве і выклікае усё большую і большую цікавасьць ў чыкагскай грамадскасьці, вітаў ганаровага госьця спецыяльна падрыхтаванай праграмай. А потым распачалася канферэнцыя, пад час якой Станіславу Шушкевічу былі зададзены самыя розныя запытаньні па праблемах сучаснага жыцьця на Беларусі і магчымых перспектыў яго разьвіцьця.

Сустрэча Станіслава Шушкевіча з расейскамоўнымі імігрантамі адбылася ў зале




С. Шушкевіч падчас сустрэчы ў Беларускай праваслаўнай царкве сьв. Юр'я ў Чыкага.

ОРТ-інстытута, дзе звычайна тыя, хто прыехаў з розных рэспублік былога Савецкага Саюзу, праводзяць свае мерапрыемствы. На гэты раз зала была перапоўненая – каля 400 чалавек прыйшло. Зноў – самыя розныя, падчас вельмі вострыя пытаньні... Больш за дзьве з паловай гадзіны трымаў Станіслаў Шушкевіч увагу аўдыторыі. А пасьля ў той дзень зноў – прыватныя сустрэчы, адказы на бясконцыя запытаньні...



### Старшыня ВС РБ

## Сп. Сямён ШАРЭЦКІ ў Канадзе...

23-га студзеня 2000 г. прыляцеў у Канаду з візытам Сп. Сямён Шарэцкі з жонкай Галінай. У Канаду запрасіў іх прэзыдэнт Лёнданскага Ўнівэрсытэту Пол Довэнпорт. І ўжо 24-га студзеня сп. С. Шарэцкі прачытаў даклад для студэнтаў унівэрсытэту. Гаварыў ён пра палітычнае і эканамічнае становішча ў Беларусі. Пасьля дакладу адбылася жывая і цікавая дыскусія. Праф. Довэнпорт пасьля прыняў сп. Шарэцкага прыватна і ў часе гутаркі ён паабяцаў усю магчымую дапамогу для Беларусі.

У далейшым на Ўнівэрсытэце Ватэрлю ізноў даклад пра беларускія праблемы. Даклад зрабіў на студэнтаў вельмі добрае ўражаньне. Др. Зіна Гімпелевіч, шчырая беларуска, запрасіла гасьцей у гэтую высокую навуковую ўстанову, а пасьля яна-ж гасьціла адборнай беларускай закускай. А вечарам адбылася сустрэча з беларускімі студэнтамі, якія вучацца на гэтым унівэрсытэце.

Перад гэтым спадарства Шарэцкіх гасьцілі ў сваю чаргу Др. Барыс і Людміла Рагулі.

26-га студзеня Шарэцкія вылецелі ў сталіцу Канады — Атаву, дзе іх сустрэла старшыня Рады БНР спд. І. Сурвілла. Тут адбылося важнае спатканьне з міністрам замежных спраў Канады. Спатканьне было вельмі плённым.

Беларускае грамадзтва Канады шчыра дзякуе спадарству Шарэцкім за ўдалую і цікавую візыту і жадае ім посьпехаў у абароне беларускае незалежнасьці. Трэба падзякаваць таксама праф. Ч. Рудду, які выдатна дапамог ў арганізацыі гэтай візыты.

А ўжо 29-га студзеня спадарства Шарэцкія вылецелі ў ЗША.

*Б. Рагуля.*

## ...і ў ЗША

Старшыня 13-га Вярхоўнага Савету Беларусі Сямён Шарэцкі правёў у Вашынгтое гэтымі днямі шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі заканадаўчай і выканаўчай улады ЗША з мэтай паіфармаваньня амэрыканскіх палітыкаў аб сучасным стане ў Беларусі ды пагрозе беларускай дзяржаўнасьці з боку расейскага шавінізму, на паслугах якога стаіць незаконны прэзыдэнт дзяржавы А. Лукашэнка.

2-га лютага адбылося спатканьне ў Дзяржаўным Дэпартаманце з намесьнікам дзяржсакратара Троўбам Талбатам. Сп. Шарэцкага суправаджалі два дэпутаты ВС, былы Старшыня ВС сп. Станіслаў Шушкевіч і сп-ня Людміла Гразнова. У гутарцы з наведнікамі сп. Талбат выказаў падтрымку беларускім дэмакратам у іхным супрацоўніцтве з міжнароднай грамадзкасьцю на карысьць дэмакратыі і незалежнасьці Беларусі.

Прайшла таксама гутарка з памочнікам дзяржсакратара па справах правоў чалавека, Гаральдам Когам. Сп. Шарэцкі і сп-ня Гразнова расказалі пра самаволю дзяржаўных органаў у Беларусі ды факты пагвалчаньня правоў чалавека.

Таго самага дня сп. Шарэцкі і ягоныя калегі правялі гутарку з кангрэсманам Стэні Гоерам, сябрам кангрэсавае Гэльсінскае камісіі і заступнікам старшыні Парлямэнцкае Асамблеі АБСЭ. Госьці кангрэсмана Гоера паіфармавалі яго пра тупіковае палажэньне ў Беларусі з працэсам перамоваў паміж дэмакратычнай апазыцыяй ды ўладай, а таксама пра пагрозу беларускай дзяржаўнасьці з боку расейскага шавінізму. Тэма гэтая прагучала таксама напярэдадні ў выступленьні сп. Шарэцкага перад шматлікай аўдыторыяй у канфэрэнцзалі радыёстанцыі "Свабода".

Дэлегацыя беларускіх заканадаўцаў склала візыт кангрэсману Сэму Гэйдэнсону, бацька якога паходзіць з Беларусі ды які зацікаўлены ў падтрымцы дэмакратыі і незалежнасьці Беларусі.

У сваіх выступленьнях спсп. Шарэцкі і Шушкевіч ды сп-ня Гразнова паведамлялі таксама пра дэманстрацыі, якія заплянаваныя ў Беларусі ды ў некаторых эўрапейскіх сталіцах на абарону беларускае дэмакратыі і незалежнасьці. Гэткія дэманстрацыі адбудуцца 15 сакавіка (Дзень Канстытуцыі), 25-га Сакавіка (Дзень Волі) і 26 красавіка (Чарнобыльскі Шлях).

Адбыліся таксама яшчэ іншыя сустрэчы сп. Шарэцкага з высокімі прадстаўнікамі ўладаў, у тым ліку са сьпікерам Палаты Прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША кангрэсманам Дэнісам Гастэртам

*Прэсавы камунікат*

## АКЦЫІ

Апазыцыя шырокім фронтам распачала падрыхтоўку да сьвяткаваньня Дня Волі, які будзе адзначацца 25-га Сакавіка. У склад арганізацыйнага камітэту ўвайшло больш як 100 прадстаўнікоў розных партыяў, грамадзкіх аб'яднаньняў, прафсаюзаў, вядомыя вучоныя, пісьменьнікі і мастакі.

Віктар Мухін

# Беларуская Опэра ў 1941–1944 гадах

«ARCHE - Пачатак»

Да вайны беларуская опэра разьвівалася як складнік савецкае опэры. У кірунку, дыктаваным Саюзам кампазытараў ды запатрабаваньнямі ваеннага часу, беларускія кампазытары й выканаўцы працягвалі працаваць і пасьля адступленьня чырвонага войска зь Беларусі ды эвакуацыі часткі Беларускага Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатру опэры й балету ў глыб Расеі. У той самы час пазасталыя ў акупаваным немцамі Менску беларускія музыкі стварылі шэдэўры нацыянальнага музычнага мастацтва, у тым ліку і опэры...

## Беларуская Опэра ў Менску

Найбольш цікавая для нас і дагэтуль слаба асьветленая на Бацькаўшчыне чыннасьць беларускіх музыкаў пад нямецкай акупацыяй у Генэральнай акрузе „Беларусь", а найперш — Міколы Шчаглова-Куліковіча (1897—1969). Гэты пэрыяд слаба асьветлены ў гісторыі беларускага тэатру, а ўся літаратура выдадзеная на эміграцыі. Фундамэнтальная праца „Музычны тэатр Беларусі: 1917—1959" (Мн., 1993) толькі згадвае імя гэтага выбітнага кампазытара ды спасылаецца на „адсутнасьць у Беларусі неабходных біяграфічных, архіўных зьвестак і асабліва музычнага матар'ялу", што „не дае магчымасьці аўтарам зрабіць вычарпальны аналіз і арганічна ўвесьці творы М. Шчаглова-Куліковіча ў агульны працэс разьвіцьця беларускага мастацтва".

Ніжэй пойдзе гаворка пра беларускае опэрнае мастацтва ў паднямецкай Беларусі, што грунтавалася на „нацыянальна–гістарычным сюжэце з шырокім скарыстаньнем фальклёрных крыніцаў... і ўяўляе адзін з тых кірункаў беларускага опэрнага мастацтва, якому ня лёсіла асягнуць сталасьці на савецкай опэрнай сцэне" (Музычны тэатр Беларусі: 1917—1959 гг. Мн., 1993. С. 246).

Беларускія дзеячы ўбачылі ў немцах вызвольнікаў ад польскага шавінізму й савецкага таталітарызму. Немцы паступова ўсьведамлялі неабходнасьць супрацоўніцтва зь мясцоваю інтэлігенцыяй, якая не адмаўлялася ад кожнага шанцу зрабіць нешта на карысьць роднага краю. Людзі спачатку ўспрынялі немцаў проста як *чарговых акупантаў* — пасьля савецкіх ды польскіх. Кожная магчымасьць працаваць дзеля Беларусі мусіла быць скарыстаная, нават калі трэ было ісьці на супрацоўніцтва з чужынцамі. Менавіта гэта трэба мець наўвеце, калі глядзім на падзеі таго часу. Ня быў выняткам у агульнай плыні адраджэньня нацыянальнае культуры пэрыяду другое сусьветнае вайны й беларускі тэатар, улучна з опэрай.

Дапамагаюць уявіць ролю беларускага тэатру, і ў прыватнасьці опэрнага мастацтва, радкі з артыкулу „Творчыя праблемы беларускага тэатру" ведамага музыказнаўцы Вячаслава Селяха з часапісу „Новы шлях" (№ 1 (37), студзень 1944 году) *„Сярод найматутнейшых сродкаў ажыцьцяўленьня тых вялізарных заданьняў, што паўстаюць сяньня ў галінах адбудовы нашае бацькаўшчыны, тэатар займае адно з адказных мейсцаў. Сутнасьць тэатральнага мастацтва тая, што яно зьяўляецца моцнай зброяй у заваёве думак і пачуцьцяў чалавека, у абуджэньні і арганізацыі яговых імкненьняў, яговых жаданьняў. Тэатар мабілізуе гэтыя думкі ў тым ці іншым кірунку, абуджае пэўныя эмоцыі і становіць афармляе пэўны і непахісны сьветапагляд. Праз гэта ўсякі запраўдны тэатар, а гэта значыць і наш Беларускі тэатар зьяўляецца пэўным фактарам, які можа і павінен адыграць значную ролю ў вадбудове на руінах старога, нядаўна мінулага нашае бацькаўшчыны"*. Цікавы погляд аўтара на стан беларускага тэатру па прыходзе ў Менск немцаў і праз тры гады пасьля таго: *„Калі першы пасьля вызваленьня пэрыяд у працы Беларускага тэатру ў Менску быў пераважна арганізацыйны, калі зьбіраліся і згуртоўваліся патрэбныя сілы, калі тэатар ня меў тады яшчэ магчымасьці ставіць у сваёй творчасьці пэўныя праблемы, дык сяньня, у трэйці год існаваньня тэатру, гэтыя праблемы паўсталі перад тэатрам ува ўсю веліч і патрабуюць неадкладнай гарачай і станоўкай працы"*. Галоўнаю справаю тагачаснага беларускага тэатру бачылася асьвета: *„Нашае першае і галоўнае заданьне ў вадбудове нашае нацыянальнае культуры, — гэта ачысьціць наш побыт, нашае жыцьцё ад бальшавіцкае спадчыны і перш за ўсё ачысьціць псыхалёгію таго чалавека, які сфармаваўся пры бальшавізьме (...) Тэатар агітуе, тэатар захапляе, тэатар вабіць і абуджае пэўныя эмоцыі і пачуцьці. Тэатар павінен паказваць усю жудасьць і брыдоту савецкай рэчаіснасьці, зь якой некаторыя ў свой час зжыліся, нібы з нармальным зьявішчам. Трэба абуджаць у сэрцах нашага народу высокі запраўдны патрыятызм і бязьмежную любоў да нашае бацькаўшчыны. Паказаць на сцэне ў мастацкіх вобразах гістарычных героў-патрыётаў, як, прык., Ладам, Кастусь Каліноўскі, як князь Полацкі Ўсяслаў і інш."*

Беларуская опэра ў паднямецкім Менску пайшла ў кірунку паказу слаўнага й багатага мінулага.

Вячаслаў Селях, ацэньваючы стан беларускае нацыянальнае опэры на пачатку 1944 году, піша: *„Перад опэрай стаіць вельмі складаная і вельмі адказная праблема выхаваньня і перавыхаваньня чыстага музычнага парадку, асабліва нашага маладога пакаленьня, якое расло пры бальшавіках і набывала свой эстэтычны густ на розных савецкіх "дрындульках", што ўпарта выцiскалі з жыцьця нашую мілагучную беларускую народную песьню і ейную прыгожую мэлёдыю. Адны забываліся на нашую родную песьню і музыку, а іншыя, маладзейшыя, шмат чаго з гэтага прыгожага народнага песеннага фальклёру і ня ведаюць. Задача опэры ўваскрашаць усё каштоўнае, прапагандаваць і падаваць у магчыма прывабным, высакамастацкім выкананьні. Творы нашых слаўных кампазытараў, як "Купальле" Туранкова ды "Лясное возера" Шчаглова даюць найлепшы матар'ял, каб на ім выхоўваць добры мастацкі густ, даваць эстэтычную асалоду, абуджаючы адначасна нацыянальныя пачуцьці"*.

## Шчаглоў–Куліковіч

У беларускай музыцы таго часу вылучаецца постаць Міколы Шчаглова-Куліковіча, які вёў рэй у беларускім опэрным мастацтве 1941—44 гг., а пазьней займаў выбітнае месца на эміграцыі. Яшчэ ў даваенны час у 1938 годзе ён напісаў опэру „Кацярына" (нясконченая, лібрэта М.Клімковіча), што на Першай дэкадзе беларускае літаратуры й мастацтва ў Маскве была паказаная гледачу ў канцэртнай вэрсіі на сцэне тэатру імя К. Станіслаўскага й У.Неміровіча–Данчанкі. У той самы пэрыяд кампазытар актыўна выступаў на бачынах штотыднёвіка „Літаратура і мастацтва" з артыкуламі па праблемах разьвіцьця беларускае музыкі, у прыватнасьці, а для нас гэта вельмі істотна, нацыянальнае опэры. Кампазытар не эвакуяваўся зь Менску, а застаўся ў горадзе, калі той занялі немцы. Тут ён узначаліў музычны аддзел Беларускае Культурнае Рады й Беларускага Культурнага Згуртаваньня, пры якіх у 1942—44 гг. была арганізаваная й дзеіла сэкцыя музычных працаўнікоў Беларусі — кампазытараў, музыказнаўцаў, дырыжораў, рэгентаў, музыкаў, сьпевакоў. Да сэкцыі належалі такія відныя й заслужаныя дзеячы беларускага музычнага мастацтва, як кампазытары А.Туранкоў, М.Равенскі, Р.Самохін, М.Іваноў, А.Спаскі, опэрны рэжысэр Вастокаў, салісты опэры Лазараў, Пукст, Чамярысава, Купцэвіч, Бандарэнка, Касьценіч, Вержбаловіч, Шчаціхін, Швайка й шмат іншых. Адны зь іх пісалі новыя музычныя творы, а ў тым ліку опэры й апэрэты: Самохін — опэру „Каваль-ваявода" (паводле А. Міровіча), Равенскі — апэрэту „Залёты" (паводле В.Дуніна–Марцінкевіча), Іваноў — дзіцячую опэру „Мухамор" (паводле вершаванае казкі М.Танка) (А.Калубовіч. Мікола Шчаглоў (Куліковіч) // Беларускі сьвет. № 15 (44), 1984. С.5).

Фактычна ж музычным жыцьцём акупаванага Менску кіраваў Мікола Шчаглоў-Куліковіч ды асабіста браў чынны ўдзел у арганізацыі Менскага опэрнага тэатру, быў у ім дырыжорам сымфанічнае аркестры. Але асноўная ягоная роля ў азначаны пэрыяд выяўляецца ў напісаньні дзьвюх опэраў, значэньне якіх неацэннае ў агульнай скарбонцы нашае культуры. Выдатны музыказнаўца й кампазытар А.Карповіч дае ў зьвязку з гэтым такую ацэнку творчасьці М.Шчаглова–Куліковіча: *„Ён у сваёй творчасьці імкнецца знайсьці арганічнае адзінства мэлёдыі й гармоніі, сымфанізаваць народны музычны фальклёр, шукаць новыя фарбы на гукавой палетры народных інструмэнтаў, сродкамі сучаснай эўрапейскай сымфанічнай аркестры імкнецца перадаць іхнае гучаньне. Ён узьдымае беларускую мэлёдыю на высокі мастацкі ўзровень кампазытарскае тэхнікі, глыбака і ўдумліва падыходзіць да захаваньня ў мастацкіх творах своеасаблівасьцяў беларускага каларыту. Творчая дзейнасьць М. Шчаглова–Куліковіча можа служыць прыкладам няўпыннае і ўпорыстае працы над праблемай народнасьці ў музыцы, праблемай, якая стала перад ім яшчэ ў часе першых спробаў засваеньня беларускае песьні"* (А.Калубовіч. Мікола Шчаглоў (Куліковіч) // Беларускі сьвет. № 15 (44), 1984. С. 10).

## Туранкоў

Побач зь імем Міколы Шчаглова–Куліковіча праходзіць постаць кампазытара А.Туранкова. Ён разам зь ім скончыў Маскоўскую Сынадальную Музычную Вучэльню ды меў падобны творчы шлях. Яшчэ ў 1932 годзе ён піша першую рэдакцыю опэры „На Купальле" на тэкст Міхася Чарота, што з палітычных матываў аднак не была дапушчаная на сцэну (A. Karpovič. Matarjały da historyji biełaruskaj muzyki. Chranalohija). У 1939 годзе ён перарабляе гэтую опэру ды піша другую ейную рэдакцыю і надае ёй новы назоў — „Кветка шчасьця" (лібрэта П.Броўкі й П.Глебкі). У 1941 годзе ў Менскім тэатры была адноўленая першая рэпрэсаваная рэдакцыя ягонае опэры „На купальле".

## Арсеньнева

Досыць прыкметнае месца ў музычным жыцьці таго часу займае паэтка Натальля Арсеньнева. Яна супрацоўнічала зь Менскай Опэрай у гадох 1941—44 і пераклала на беларускую мову для пастаноўкі многія агульна ведамыя опэры, апэрэты й драматычныя творы, як „Кармэн" Бізэ, „Яўген Анегін" Чайкоўскага, „Зачараваная жалейка" Моцарта, „Разьбіты кубак" Кляйста, „Вольны стралец" Вэбэра, „Цыганскі барон" Штраўса, „Затонуты звон" Гаўптмана, „Дзяды" Міцкевіча ды іншыя. У тым ліку Натальля Арсеньнева сталася аўтарам лібрэта да дзьвюх опэраў Міколы Шчаглова–Куліковіча — „Усяслава Чарадзея" ды „Лясного возера". Пра іхнае плённае супрацоўніцтва ўжо па сьмерці кампазытара паэтка прыгадвае: „Імя Міколы Куліковіча, Міколы Шчаглова займе некалі бясспрэчна пачэснае месца ў гісторыі беларускае музыкі й культуры наагул. Ён увойдзе ў іх як вялікі й шчыры энтузыяст ды знаўца беларускага песеннага фальклёру, а таксама й як вельмі таленавіты й плодны творца–кампазытар, аўтар дзьвёх цудоўных беларускіх опэраў, дзе беларускі песенны фальклёр якраз вельмі багата скарыстаны. Опэры гэтыя — лірычнае, мэлядыйнае „Лясное возера", не пазбаўленае, адылі, глыбака трагічных, драматычных момантаў, ды гераічная опэра „Ўсяслаў Чарадзей". Апроч опэраў Натальля Арсеньнева зь Міколам Шчагловым-Куліковічам напісалі апэрэту „З выраю", чым, аднак, іхнае супрацоўніцтва не абмежавалася — аднак гэта ня тычыцца тэмы нашых дасьледзінаў.

У 1941—42 гг. Мікола Шчаглоў-Куліковіч стварае лірычна–рамантычную опэру зь беларускага жыцьця XIII ст. „Лясное возера". Увэртура да опэры — яскравы музычны абраз, прасякнуты рамантычным успрыняцьцем прыроды. Шматкаляровую палітру эмоцыяў перадае ў гуках кампазытар — пяшчотную лірыку дзявочага каханьня, тонкае адчуваньне прыроды, бадзёры крок юнакоў-барацьбітоў за вольную Бацькаўшчыну, патрыятычны ўздым, эпічную шырыню й драматычную ўсхваляванасьць (А. Калубовіч. Мікола Шчаглоў (Куліковіч) // Беларускі сьвет. № 15 (44), 1984. С. 6, 14). У 1942—43 гг. яна ішла на сцэне Менскага опэрнага тэатру. Нельга не прывесьці тут словаў Натальлі Арсеньневай пра опэру: *„"Лясное возера" было створана кампазытарам у першыя гады нямецкае акупацыі Беларусі. Памятаю, як сяньня, тыя галодныя й халодныя часы, калі я пісала да гэтае опэры лібрэта. Паэта, раўнуючы да кампазытара, бясспрэчна пакрыўджаны доляй. Слова бо шмат цяжэй успрымаецца слухачом, чымсьці музыка, дый імя ягонае ў агульным сутворы губляецца, памінаецца. Ды ўсё ж радасна, як ніколі было пачуць свае словы, прабуджаныя, ажыўленыя музыкаю Міколы Шчаглова. Мо таму, што ад першага знаёмства, ад першага сутыку нашых талентаў, мы нейкім дзіўным чынам знайшлі супольную мову, сугучнасьць, зразуменьне. Музыка кампазытара незвычайна зьлівалася з маімі словамі й думкамі. Мне здавалася, што каб я была й паэтам, і кампазытарам, я б сама лепшае музыкі да сваіх словаў напісаць не патрапіла. Асабліва падабалася мне працягненая як быццам чорнаю ніткаю праз усю канву опэры музычная тэма долі, трагічнага людзкога кону, тае долі, долі–чужаніцы, у якое „нельга адпрасіцца", што „хоча — дорыць шчасьцем, хоча — гнець і ломіць, аж жыцьцё людзкое, як той колас зломіць". „За аснову песьні аб долі, —* працягвае Натальля Арсеньнева, — *што выконваецца ў першым акце опэры квартэтам, а прыканцы вялікім хорам, кампазытар узяў народную песьню "Палыночак", ператварыўшы яе сваім талентам у глыбака–трагічнае сьцьверджаньне людзкое бясьсільнасьці перад Конам. Памятаю, калі ў фінале опэры вялікі хор Менскага тэатру разам з салістымі сьпяваў над целам забітага дружыньнікам Данілаю князя: "Цябе, доля злая, праклінаюць... славяць, славяць, цябе, доля!" — сапраўды, як кажуць, мароз бег па скуры й балюча а моцна білася сэрца"*.

У 1942—43 гг. пішацца гістарычна–гераічная опэра з падзеяў XI ст. „Усяслаў Чарадзей". Яна меласа ў рэпэртуарным пляне Менскага опэрнага тэатру на 1944 год, пра што ў прэсе было паладзена для публічнага ведаму. У тэатры ішлі рэпэтыцыі. Але з–за акупацыі Менску й Беларусі савецкім войскам паставіць яе не пасьпелі. У канцэртным выкананьні ў 1943

годзе опэру перадавала менская радыёстанцыя, а 26 сакавіка 1944 году сцэна зь яе была паказаная ў Менскім тэатры на сьвяточным канцэрце пасьля ўрачыстае акадэміі, прысьвечанай сьвяту 25–га Сакавіка. Натальля Арсеньнева ўжо на эміграцыі прыгадвала часіны стварэньня опэры: *„Не падвяла сугучнасьць нашых талентаў зь Нябожчыкам і ў іншай нашай супольнай працы — опэры "Ўсяслаў Чарадзей", ці, як яе яшчэ называюць, "Князь Усяслаў Полацкі". Разнастайнасьць, багацьце творчага таленту Міколы Шчаглова выявілася ў гэтым творы бадай ці шчэ не паўней. Гэта была опэра гераічная, і ў аснову ейную мною былі пакладзеныя ведамыя гістарычныя факты". „Гісторыя беларускага народу на працягу вякоў была гісторыяй несьціханага, упорыстага змаганьня за свабоду й нацыянальную незалежнасьць. Ужо ад самога пачатку стварэньня беларускіх самастойных гаспадарстваў народ наш мусіў напружана й жорстка змагацца за свае межы і з суседзямі, і зь дзікімі вандроўнікамі, з наезьнікамі з усходу й захаду. У гэтым змаганьні й нарадзіліся першыя формы беларускага літаратурнага ды музычнага мастацтва"*, — гэтыя думкі Міколы Шчаглова–Куліковіча, выкладзеныя ў адным зь ягоных шматлікіх артыкулаў, прысьвечаных беларускай музыцы й песьні, як найлепей тарнуюцца й да опэры „Ўсяслаў Чарадзей". У яе ўплецены вобразны разьдзел пра змаганьне Полацкага княства — калыскі нашае дзяржаўнасьці — за незалежнасьць ды створаны велічны абраз князя Ўсяслава, які, як піша аўтар „Слова пра паход Ігаравы": „Людзьмі кіраваў, князём гарады перадказаў, а сам па начох ваўком бегаў: з Кіеву ў Тмутаракань да петухоў забягаў, вялікаму Хорсу дарогу перасякаючы" (пераклад Натальлі Арсень- невай).

Опэры Шчаглова–Куліковіча належаць да новага этапу ў беларускім музычным мастацтве ды вылучаюцца сваім „манумэнтальным эпасам" паводле трапнага вызначэньня музыказнаўцы Алеся Карповіча (А. Карповіч. Памяці Міколы Шчаглова (Куліковіча) // Беларускі сьвет. № 15 (44), 1984. С. 13). Прасякнутыя духам беларускага народу й беларускае прыроды, яны становяць творы цалкам сучасныя й з боку тэхнічнага майстроўства, якія па праву могуць заняць месца ў шэрагу эўрапейскіх узораў опэрнага мастацтва. Музыка па–майстроўску злучыў лепшыя традыцыі славянскай музычнай школы зь інтанацыйна–ладавым багацьцем беларускага народна–песеннага мастацтва, стварыўшы гэтым падставы заснаваньня беларускага нацыянальнага стылю ў музыцы, непаўторнага ў сваёй сьвежасьці й арыгінальнасьці (А. Карповіч. Памяці Міколы Шчаглова (Куліковіча) // Беларускі сьвет. № 15 (44), 1984. С.14).

Па прыходзе саветаў імя Міколы Шчаглова–Куліковіча было надоўга сьцёртае з гісторыі беларускае музыкі. Будзьма спадзявацца, што ягоныя творы некалі будуць адноўленыя ў рэпэртуары нашага Нацыянальнага Вялікага тэатру опэры й балету.

Гэты агляд разьвіцьця беларускае опэры ў 1941—44 гадох паказвае, што нягледзячы на разбурэньні й цяжкасьці ваеннага часу беларускія кампазытары, а найперш Мікола Шчаглоў–Куліковіч, стварылі й паставілі творы опэрнага мастацтва эўрапейскага ўзроўню, што займаюць пачэснае месца ў скарбонцы нашых нацыянальных культурных здабыткаў.

*Падрыхтоўка тэксту сталася магчымай дзякуючы ласкавай дапамозе кіраўніка "Беларускай капэлы" сп. Віктара Скарабагатава.*

*Пры падрыхтоўцы выкарыстаныя матэрыялы са збораў Лёнданскай Бібліятэкі імя Францішка Скарыны.*

# Бабуля ўсіх Беларусаў

**У самай паўднёвай беларускай вёсцы Ніжнія Жары жыве найстарэйшая грамадзянка Беларусі, 122-гадовая Марыя Васільеўна Шарая.**

**Бабулю Марыю па-сапраўднаму заўважылі зусім нядаўна. Ці то апошні перапіс насельніцтва дапамог, ці то завяршальны год тысячагоддзя паспрыяў, але гістарычная справядлівасць перамагла -- і зорка Марыі Васільеўны зазіхацела на паўднёвым небасхіле дыяментам найпершай велічыні: яна -- бабуля ўсіх нас, грамадзянаў Беларусі.**

У Ніжніх Жарах і ваколіцы, канешне, ведалі пра доўгажыхарку. Два гады таму, калі загадчыца аддзела сацыяльнай абароны Брагінскага райвыканкама Любоў Кузняцова разам са старшынёй Камарынскага пасялковага Савета Сяргеем Пугачам і яго калегам з Верхняжарскага сельскага Савета Віктарам Свіслоўскім ладзілі фэст для людзей сталага веку, бабулю Марыю запрасілі ў Камарын. І яна пагадзілася пракаціцца ў аўтобусе -- ажно за дванаццаць кіламетраў ад дому. Віктар Свіслоўскі, як галантны мужчына і адказны чалавек, хацеў прыслужыць тады 120-гадовай даме, але тая рашуча адпіхнула ягоную руку і жвава забралася ў аўтобус.

Цяпер, канешне, Марыя Васільеўна не такая рухавая -- найбольш ляжыць на печы. Бывае, спускаецца па прыступцы на драўляны, *прыкінуты сеннікам і дзяружкай палок пасядзець, падмацавацца харчам* з рук сястры, 88-гадовай Еўдакіі Васільеўны. Палок гэты метра паўтара шырынёй прымайстраваны прама ад печы да грубкі. Ад падлогі ён невысока, сантыметраў семдзесят, і служыць адначасна і "плацдармам" для ўзяцця печы, і ляжанкай для прахалоды любой з сясцёр.

Выходзіць яшчэ бабуля Марыя і "ў свет" -- па патрэбе ў сенцы альбо бліжэй да акна з урачыстай, як зараз, нагоды -- сфатаграфавацца. Не з рукі ж неяк бабулі ўсіх беларусаў даваць інтэрв'ю ці фатаграфавацца для газеты прама на печы.

Шоргаючы тоўстымі самаробнымі шкарпэткамі па вымытай падлозе, Марыя Васільеўна як бы наракае, што модніцы з яе не выйдзе.

-- Няма ўжо цела, -- кажа бабуля, калі я падтрымаў яе пад высахшую, як сучок, руку.

Здзівіла і цярплівасць Марыі Васільеўны: фатаграфавалася яна і адна, і ўдваіх з сястрою, і з нечаканымі гасцямі -- сваім даўнім "паклоннікам", старшынёй сельскага Савета Свіслоўскім, загадчыцай найраднейшага ў раёне аддзела сацыяльнай абароны Любоўю Кузняцовай.

Не супраць была яна быць на фотаздымку і ў атачэнні намесніка начальніка абласнога ўпраўлення сацыяльнай абароны Міхаіла Кручкова і старшыні Камарынскага пасялковага Савета Сяргея Пугача, але тыя, бачыць Бог, супрацівіліся самі. На іх баку аказалася і пляменніца, дачка Еўдакіі Раіса Андрэеўна, што прыехала ў Ніжнія Жары з Украіны.

Бабуля ж -- малайчына. Не толькі сфатаграфавалася, але і з інтэрв'ю мяне не пакрыўдзіла: *сказала сёе-тое ў дыктафон і пра жыццё* гаротнае, і пра худобу, што пасвіла некалі над дняпроўскімі кручамі, і пра мужа, што паплыў праз Дняпро "на вятрак", у млын значыць, і не вярнуўся, і пра Сібір, дзе была з дачкой.

Дайшлі мы і да ўзросту бабулі.

-- Мне сто гадоў, ужо можа і з лішнім, -- кажа ў дыктафон сама Марыя Васільеўна. -- Усе ўжо памерлі -- адна я жыву.

Голас у бабулі нараспеў, з невялікай задышкай, але ўсё яшчэ моцны. І ўкраінскі акцэнт прысутнічае. Бабуля, канешне, не памятае дакладна ні даты, ні года свайго нараджэння, але ўсё ж згадвае, што пры сваім шляху, сярод усіх старых, даўно была "ў пачоце".

Дакладнай даты нараджэння сястры не ведае і Еўдакія. Затое ў пашпарце Марыі Васільеўны, даўно выдадзеным Брагінскім РАУС, значыцца год нараджэння: 1878. І месца нараджэння -- вёска Ніжнія Жары.

У сям'і Васіля і Матроны Федарэнкаў было сямёра дзяцей. Старэйшая -- дачка Вера. Апасля *нарадзіліся Марыя, Фёкла, Вольга, Фёдар, Міхаіл і* Еўдакія.

Хата Васіля Рудога -- так называлі ў вёсцы бацьку Марыі з-за колеру валасоў -- стаяла на высокім беразе Дняпра. Гаспадаром ён быў сярэдняга дастатку. Трымаў пару коней, жывёлу, якую тут, на мяжы з Украінай, часцей за ўсё называюць "худобай".

*Іншыя сяляне мелі ў гаспадарцы і валоў*, але Васіль іх чамусьці не прызнаваў як цяглавую сілу, -- хутчэй за ўсё з-за маруднасці.

Выяўляў сябе Федарэнка і неблагім майстрам. Узімку, калі па-над вёскай гулялі маразы і завеі, нёс Васіль у хату загадзя прыдбаныя ў лесе і ачэсаныя бярозавыя палазы, начынне і ператвараў хату ў сапраўдную майстэрню. Стругаў, пілаваў, дзёўб долатам дзіркі пад капылы -- ладзіў новыя сані.

Па патрэбе вырабляў і жлукты-пасудзіны з вярбы ці асіны для запарвання бялізны ў попельным растворы.

Малеча заўсёды круцілася вакол гэтага відовішча: адны -- прытрымаюць загатоўку, другія -- прыбяруць у кошык стружкі. Старэйшым дазваляўся ўрачысты вынас гатовага вырабу на падворак.

У адрозненне ад дачкі Марыі бацька быў пісьменным чалавекам. Прынамсі, чытаць ён умеў і трымаў у хаце ажно дзве Бібліі. Часцяком на святы, зноў жа ў вальнейшую зімовую пару чытаў Святую кнігу ўслых усім дзецям, а заадно і суседу Кузьме, які дужа любіў слухаць. Чытанні працягваліся і па вечарах пры лучыне.

Лучына гэта гарэла ў невялікім, падвешаным каля стала свяцільніку-самаробцы. Над ім ад самай столі, дзе была праразана дзірка, спускаўся даўгаваты, сатканы з канаплянага валакна мяшок-рукаў з устаўленым на канцы абручом. Прыстасаванне -- правобраз сённяшніх кухонных выцяжак: не давала дыму расплывацца па хаце, цягнула яго на гарышча.

-- Бацька наш, -- дапаўняе Еўдакія, -- пры такім святле чытаў да самай старасці без акуляраў. А калі памёр, мне часта сталі сніцца сны, у якіх бацька прасіў: "Аддайце мае кніжкі!", *і мы з Марыяй і Вольгай закапалі* дзве Бібліі на магіле бацькі, прама пад крыжам. Ўншых кніжак у хаце не было. Цяпер крыху шкадую: мо хапіла б для таткі і адной Бібліі, а другую б цяпер чытала сама.

У Ніжніх Жарах, як сведчаць старажылы, жыў наогул адметны люд. Тут шмат было высокіх моцных мужыкоў, што цягалі па Дняпры і баржы, і ***плыты. У нейкім сэнсе вёска -- месца селекцыі дняпроўскіх бурлакоў.***

Этымалогія выяўляе і яшчэ адну асаблівасць паселішча. Назва Жары (вышэй па цячэнні ракі -- Верхнія, ніжэй -- Ніжнія) абазначае, па меркаванні беларускага даследчыка Жучкевіча, месца першапачатковай расчысткі лясоў для земляробства шляхам выпальвання. Падобныя тапонімы, апроч нашай Беларусі, шырока распаўсюджаны ў Чэхіі, Польшчы.

Зрэшты, Ніжнія Жары ў нейкім сэнсе пацвярджаюць гіпотэзу свайго паходжання размяшчэннем хат. Яны адвольна раскіданы на высокім беразе Дняпра сярод сасновага лесу. Кожны падворак -- нібы астравок.

Гэту сваю зямлю, малую радзіму, бабуля Марыя пакідала, мусіць, толькі адзін раз. Еўдакія пра тое не згадала, а Марыя ўспомніла: "Я і ў Сібіры была, я і ў стэпе была, я і худобу пасвіла -- чаго я не рабіла! Болей гаравала, чым добра жыла".

Высветлілася, што Марыя Васільеўна сапраўды зведала і Сібір, і стэп -- цаліну.

Было гэта ўжо пасля вайны, калі Марыя ў роспачы вярнулася ў Ніжнія Жары з суседняга Камарына, дзе жыла нейкі час і.пахавала дваіх дзяцей -- Ніну і Лявона , а пасля і іх бацьку, свайго другога мужа, Амяльяна Шарая -- памёр ён ад рыбнага саліцёра.

Акурат тады і сабралася Марыя з дачкой Дуняй у Сібір.

Хутчэй за ўсё гэта быў крок адчаю, можа, нават бегства са сваіх Жараў, дзе ад udараў жыцця стала пякельна балюча.

Зразумець Марыю можна было. Неяк не складвалася ў яе з сямейным шчасцем. Пабралася шлюбам з Рыгорам Яўстраценкам -- забраў каханага Дняпро.

Было гэта так. Ужо ў зазімку паплыў Рыгор на пласкадонцы ў левабярэжнае мястэчка ў млын. Дняпро быў неспакойны, хуткаплынны. Яшчэ ніякіх плацінаў на ім не мелася і русла яго не раздвойвалася каля вёскі на два рукавы. Шырыня -- на другім беразе чалавека не згледзіш. Млынар расказваў потым, што ўгаворваў Рыгора не адпраўляцца на *змярканні дамоў, начлег прапаноўваў -- вунь як злуецца-пеніцца* Дняпро ад сцюдзёнага ветру. Рыгор жа мех мукі ў лодку кінуў -- і дахаты, да Марыі і дачушкі Дуняшы. Пасмейваўся яшчэ: ці ж нам, дружа, Дняпра баяцца, калі змалку на Дняпры.

Знайшлі Рыгора назаўтра абледзянелым на прыдняпроўскім лузе. Перавярнуўшыся, ён усё ж выплыў з халодных абдымкаў ракі на бераг і . ег, пэўна ж, у стог сена сагрэцца. Бег, ўпаў і ... кончыўся.

Як перажыла смерць мужа Марыя, ведае толькі яна, бо нават і цяпер цяжкі ўздых вырываецца з яе грудзей. Дый не першая была гэта страта. З Рыгорам яна аплакала ўжо адну дачушку, памерлую ў малыя гады.

Словам, калі і з другой сям'ёй Марыі Васільеўне не пашанцавала, яна забрала Дуню і паехала ў Сібір шукаць лепшай долі. Прыклад быў. Туды адправіўся па вярбоўцы з сям'ёй аднавяскоўец Антон Пузырына. Вярнулася Марыя з дачкою ў Ніжнія Жары праз паўтара года. Не прыжылася ні ў Сібіры , ні ў Казахстане. І найперш таму, што не атрымала за сваю працу тое, што належала і што абяцалі. Гэту крыўду ўспомніла зараз нават Еўдакія -- пасля згадкі сястры пра Сібір. Неўзабаве, калі акрыяла душа ад вандроўкі на ўсход, Дуня з'ехала ў Кіеў, дзе немаладой выйшла замуж, а пасля памерла, не нарадзіўшы Марыі Васільеўне ўнукаў.

Сама ж двойчы ўдава Марыя стала жыць з аўдавеўшай сястрой

Вольгай у хаце апошняй. Хата гэта і сёння стаіць па левую руку пры уездзе ў Ніжнія Жары.
Адсюль Марыя хадзіла на працу ў былы панскі сад, дзе мясцовы калгас "Ніжні Дняпровец", у адрозненне ад сённяшніх дзён, вырошчваў шмат агуркоў ды іншай гародніны.
Былі гады, калі Марыя даглядала калгасных авечак, і ў гэтым клопаце знаходзіла забыццё і ўсцеху.
Калгасныя "гросбухі" засведчылі, што яшчэ ў 1971 годзе бабуля Марыя працавала ў калгасе – 54 выхады за год на палявыя работы.
– Скажу вам болей,– дадае Еўдакія Васільеўна, -- улетку, калі Марыя выходзіла на падворак, то заўсёды кіравалася ў агарод. Сагнецца, вырве ў бульбе зяліну – і ўжо потым садзіцца на лаўку.
Еўдакія забрала Марыю да сябе гадоў дзесяць таму, калі не стала Вольгі. Хата ў Еўдакіі яшчэ даваенная, з сасновага бярвення. У сярэдзіне сцены атынкаваныя, абмазаныя глінай і выбелены вапнянай пабелкай. Нізкія дзверы, драўляная нефарбаваная падлога.
Еўдакія кажа, што, калі фронт у 43-м адкаціўся ад Дняпра на захад, у яе хаце жыў нейкі час генерал.
З той пары вялікіх пертурбацый у доме не было. Муж з вайны не вярнуўся, дачку Раісу Еўдакія гадавала адна.
Цяпер вось і дачка ўжо на пенсіі. Прыязджае з Днепрапятроўска, дапамагае, як і чым можа.
Дровы на зіму падвозіць сельскі Савет, а парэзаць і пакалоць іх – гэта ўжо справа пляменніка Паўла Федарэнкі, таксама пенсіянера са стажам, сына брата Фёдара.
Яшчэ гадоў пяць таму Еўдакія і Марыя трымалі карову. Цяпер ужо няма той сілы, таму ўся гаспадарка -- два каты ды шэсць курыц.
Ну і, канешне, сама Марыя. ,й таксама патрэбны ўжо догляд: кашу зварыць, малака ад суседа прынесці на супчык, бялізну памыць. За домам хаця і ёсць замацаваны сацыяльны работнік -- уважлівая ўвогуле аднасельчанка Алена Вайняловіч, але ж паўсядзённы хатні клопат – не яе справа. Яна ваду прынясе, падлогу памые, з крамы хлеба, макаронаў прынясе. Падмога, безумоўна, ды не ўся. Усё астатняе – на Еўдакіі.
Узялася неяк яна прычэсваць Марыю, яе парадзелыя белыя, як снег, валасы і прапануе: "А давай-ка, Марыйка, падкароцім іх крышку: прычэсваць лацвей".
Бабуля Марыя раззлавалася, грабеньчык забрала, утыкнула ззаду ў валасы і хустку завязала -- так і беражэ свае косы да апошняга.
Не адмаўляецца бабуля і ад чарачкі вінца, калі наведваюцца госці. Возьме, падзякуе "за адведку", гэта значыць, што не забываюць яе, -- і перакуліць.
На дарогу ж скажа, як і нам сказала: "Едзьце з Богам!"
Гледзячы на Марыю Васільеўну, успаміналіся леташнія публікацыі ў нашым беларускім друку пра 117-гадовую француженку. Яна, па сутнасці, стала нацыянальным гонарам Францыі. Тамтэйшыя масмедыя наперабой пісалі пра сваю доўгажыхарку -- і што ніколі не працавала, і што на ровары заўзята каталася, і што келіх чырвонага віна штодня спажывала, і што весялуха была... Жартавала яшчэ: маршчына толькі адна, ды і тая ззаду.
Штодзённыя публікацыі ператварыліся ў своеасаблівы дзённік жыцця бабулі-француженкі: як адчувае, што есць, п'е.
У нашай жа бабулі да апошняга часу нават медыцынскай карткі не было: не хварэла бабуля, да дактароў не звярталася. Выпадак і з гэтага пункту гледжання унікальны. Аднак герантолагі бабуляй не зацікавіліся. Ніжнія Жары ўсяго за 30 кіламетраў ад Чарнобыля, у зоне 5--15 кюры, але і з "чарнобыльскага" боку не зацікавіла спецыялістаў бабуля Марыя, як, дарэчы, і іншыя доўгажыхаркі гэтага краю.
Сіламі мясцовых служб тут не абыдзешся. Па вялікім рахунку тут наогул адзін доктар на ўсю акругу -- галоўны ўрач Камарынскай участковай бальніцы, былы вайсковы доктар Уладзімір Кузняцоў ён жа і неўрапатолаг, і тэрапеўт, і педыятр – адзін за ўсіх. Адкрыў у бальніцы сацыяльную палату для бабуль, дык тыя ў пояс кланяюцца: ратуе доктар іх пажылыя душы ад сцюдзёнай зімы ён жа сам з медсёстрамі ездзіць аказваць медыцынскую дапамогу двойчы "чарнобыльскім перасяленцам" у шматпакутную Гдзэнь, дзе высілкамі райаддзела сацыяльнай абароны і пасялковага Савета адкрыты дом сацыяльных паслуг. На большае – хоць разарвіся! – ні сілы, ні сродкаў у раёне няма. Як няма іх, дарэчы, і ў саміх бабуль.
Ды што казаць пра ўсіх іншых. Нават пра пенсію доўгажыхаркі ніякавата было чуць -- 13 тысяч рублёў у месяц. Падумалася яшчэ: а чаму б не ўзяць бабулю на поўны дзяржаўны пенсіён! Усё ж такі найстарэйшы чалавек у Беларусі! І, можа, нават не толькі яе адну, а ўсіх тых, хто дасягнуў векавой мяжы -- 100 гадоў. Дасягнуў надзіва: не піў штодня французскага "Бардо", не ляжаў у гамаку, а калі і ездзіў на ровары, то толькі на працу ці ў краму па хлеб і соль за многія кіламетры.
Жыццё Марыі Васільеўны – яскравае таму пацвярджэнне.
Ave Марыя!

*Брагінскі раён.*

Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.

# Сустрэча двух пакаленняў патрыётаў

*Ніва*

16 студзеня ў Гродне адбылася сустрэча ўдзельнікаў беларускага нацыянальнага руху 40-50 гадоў з прадстаўнікамі патрыятычных маладзёжных арганізацый. З ініцыятывай правядзення мерапрыемства выступіла гродзенская філія Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Дзейны ўдзел у падрыхтоўцы сустрэчы прынялі таксама хлопцы са спартова-патрыятычнай арганізацыі „Край". Значную падтрымку аказала гродзенская абласная філія Фонду імя Льва Сапегі.

Пачалася імпрэза беларускім нацыянальным гімнам, які спяваў гродзенскі хор „Бацькаўшчына". Пад словы: „Мы выйдзем шчыльнымі радамі", „краёўцы" ўнеслі ў залу бел-чырвона-белы сцяг. Ветэраны беларускага вызвольнага руху са слязамі на вачах спявалі гімн разам з хорам.

З прывітальным словам да гасцей, якія прыехалі з розных куткоў Беларусі, звярнуўся старшыня філіі Фонду імя Льва Сапегі Уладзімір Хільмановіч. Ён сказаў, што зараз сярод некаторых палітыкаў стала модна гаварыць быццам бы незалежнасць Беларусі дасталася выпадкова і народ за яе не змагаўся, але ўдзельнікі сустрэчы з'яўляюцца жывым прыкладам адваротнага. Яны прысвяцілі лепшыя гады свайго жыцця змаганню за свабоду Айчыны, з годнасцю неслі імя беларуса праз жахі сталінскіх канцэнтрацыйных лагероў і зараз застаюцца вернымі ідэалам маладосці.

Гісторык з Мінска Яўген Калубовіч казаў пра пераемнасць пакаленняў. Па словах навукоўца, на працягу 200 гадоў беларусы змагаліся на незалежнасць. Падзеі 17 кастрычніка мінулага года ў Мінску даюць падставы сцвярджаць, што ўдзельнікам нацыянальнага руху 40-50 гадоў ёсць каму перадаць эстафету барацьбы.

— Я ведаю, калі ў нас з'явілася такая арганізацыя як „Край", Беларусь стане сапраўды незалежнай краінай, — сказала былая сяброўка Саюза беларускай моладзі, шматгадовая пакутніца лагероў Надзея Дземідовіч з Калодзішчаў. Спадарыня Надзея прачытала некалькі сваіх вершаў напісаных спецыяльна дзеля гродзенскай сустрэчы.

Генадзь Пяткевіч з Новага Свержаня прапанаваў стварыць разам з моладдзю арганізацыю, якая займалася б пашырэннем ведаў пра беларускі вызвольны рух сярод шырокіх масаў народу, а не толькі сярод палітычна ангажаваных людзей. Спадар Пяткевіч падчас вайны быў актыўным дзеячам баранавіцкага СБМ, пасля вайны ўдзельнікам антысавецкага падполля.

— Калі нам было столькі, колькі вам цяпер, — казаў ён моладзі, — мы рыхтаваліся быць салдатамі Беларусі.

Адзін за адным выступалі ветэраны, сябры Саюза беларускай моладзі, Беларускай краёвай абароны, славутага рагулеўскага Навагрудскага шwадрону, дзесяткаў пасляваенных падпольных патрыятычных арганізацый. Успаміналі герояў, якія не дажылі да сённяшняга дня. Вядомых, такіх як Ларыса Геніюш і невядомых, чые імёны да гэтага часу пад забаронай. Ці не ўпершыню публічна было сказана пра партызанскага камандзіра Івана Раманчука, які ў канцы 40-х гадоў дзейнічаў са сваім атрадам на Нясвіжчыне, а ў 1947 годзе арганізаваў падпольны Саюз змагання за незалежнасць Беларусі.

У другой палове дня для ветэранаў адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел — дзіцячы фальклорны гурт „Дударыкі" і бард Андрэй Мельнікаў.

Напрыканцы сустрэчы былая сяброўка СЗЗНБ, удзельніца паўстання палітвязняў у Кінгіры ў 1954 годзе, Вера Касмовіч з Гардзеі, выказала ўдзячнасць арганізатарам імпрэзы.

— Вы зрабілі сапраўднае свята для нашых душ, — сказала яна. — Раней нас ніхто не ўспамінаў. Мы нікому не былі патрэбны. Лукашэнка нават пазбавіў тых невялічкіх льготаў, якія былі пры Шушкевічу. А нам шмат не трэба. Галоўнае, каб пра нас помнілі, каб мы ведалі, што нездарма пакутавалі ўсё жыццё за Беларусь.

На жаль, не ўсе запрошаныя змаглі прыехаць на сустрэчу. Не дазволіў на гэта стан здароўя. Але ніхто з ветэранаў не застаўся раўнадушным да ідэі правядзення такіх спатканняў. Вось што напісаў у лісце да арганізатараў былы „рагулевец" Андрэй Вайтовіч са Слоніма: „Ваша запрашэнне на сустрэчу ўдзельнікаў беларускага нацыянальнага руху прымусіла мае вочы зрабіцца вільготнымі. На васьмідзесятым годзіку жыцця хтосьці мяне ўспомніў, першы раз у жыцці. Вялікі, вялікі дзякуй!".

— Для нас гэтая сустрэча з'яўляецца справай гонару, — сказаў старшыня гродзенскай Грамады Віктар Сазонаў. — Менавіта такія акцыі забяспечваюць духоўную пераемнасць пакаленняў.

Удзельнікі гродзенскага спаткання вырашылі, што яно не павінна быць апошнім. Запланавана летам зрабіць наступнае і пастарацца сабраць як мага больш ветэранаў беларускага нацыянальнага руху 40-50 гадоў, не толькі з Беларусі, але і з тых, хто жыве за мяжой.

**Зміцер КІСЕЛЬ**

# Праблемы падрыхтоўкі беларускіх спартсменаў да летніх Алімпійскіх гульняў у Сіднеі

З 16 мільёнаў долараў ЗША, неабходных для падрыхтоўкі беларускіх спартсменаў да XXVII летніх Алімпійскіх гульняў у Сіднеі, з бюджэту выдзелена толькі 10 мільёнаў, ці крыху больш за 60 працэнтаў ад патрэбы. Пра гэта паведаміў 19 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску намеснік міністра спорту і турызму краіны Аляксандр Грыгораў.

Паводле яго ных слоў, Нацыянальны алімпійскі камітэт і яго спонсары не аказалі пакуль ніякай фінансавай дапамогі. "Міністэрства будзе звяртацца ва ўрад з просьбай выдзеліць дадатковыя сродкі, але мы ўжо прывыклі выязджаць на маральна-валявых якасцях ды на методыцы падрыхтоўкі спартсменаў", — сказаў намеснік міністра.

Паводле яго інфармацыі, аб'ём фінансавання падрыхтоўкі да летняй Алімпіяды 1996 года ў Атланце (ЗША) таксама быў на ўзроўні 60 працэнтаў.

Перад беларускай камандай ставіцца задача выступіць не горш, чым на мінулых Гульнях, дзе яна, як вядома, заваявала 15 медалёў (1 залаты, 6 сярэбраных і 8 бронзавых). На сёння Беларусь заваявала 131 алімпійскую ліцэнзію (права на ўдзел у Гульнях) у 18 відах спорту, у тым ліку 41 ліцэнзію ў лёгкай атлетыцы, па 14 — у кулявой стральбе і плаванні. У трох відах спорту беларусы заваявалі максімальную колькасць ліцэнзій — спартыўнай гімнастыцы (12 з 12), мастацкай гімнастыцы (8 з 8) і скачках на батуце (2 з 2).

Як заявіў А.Грыгораў, паводле папярэдняй ацэнкі ў склад беларускай дэлегацыі на Алімпіядзе-2000 у Сіднеі ўвойдуць каля 260 чалавек: да 170 спартсменаў, 65 трэнераў, 10 урачоў і масажыстаў, 15 "дадатковых афіцыйных асоб" (асабістыя трэнеры спартсменаў, навуковыя і медыцынскія работнікі), 6 супрацоўнікаў друкаваных СМІ. Вырашаецца пытанне аб паездцы журналістаў тэлебачання (БТ хоча паслаць у Аўстралію 12 чалавек).

Паводле слоў намесніка міністра, рэальна прэтэндаваць на медалі могуць 32—35 беларускіх спартсменаў у 11 відах спорту. Астатнія ў стане змагацца за месца ў васьмёрцы або возьмуць удзел у Гульнях з прыцэлам на Алімпіяду-2004 (у асноўным маладыя спартсмены).

Сярод галоўных арганізацыйных пытанняў — дастаўка беларускай дэлегацыі ў Сідней. Трансфер ажыццявіць, хутчэй за ўсё, нямецкая авіякампанія "Люфтганза" па маршруце Мінск—Франкфурт—Бангкок—Сідней. Чысты час палёту перавышае 22 гадзіны. Кошт білета ў абодва канцы складае 2000 долараў ЗША, аднак расходы ў памеры 1809 долараў пакрывае аргкамітэт Алімпіяды. Падчас перамоў з "Люфтганзай" Міністэрства спорту і турызму разлічвае знізіць цану менавіта да гэтага ўзроўню.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

*Народная Воля*

Міхась Белямук (Кліўлед, ЗША)

# НЯЗЬДЗЕЙСЬНЕНАЯ МАРА

У студзені 1429 г. вялікі князь Вітаўт чакаў у Луцку славутых гасьцей. Калі кароль Ягайла прыехаў з Гарадзеншчыны, дзе ён паляваў цэлы месяц, вялікі князь паведаміў яму, што кароль вугорскі, чэскі, цэсар сьвятой Рымскай імпэрыі Жыгімонт прыедзе пазьней, пасьля Вадахрышча. Ягайла, скарыстоўваючы гэтую нагоду, паехаў ізноў на паляваньне ў бліжэйшую пушчу. Вярнуўся 23-га студзеня і разам з Вітаўтам паехаў спатыкаць Жыгімонта, ягоную жонку Барбару і васальных баронаў. Манархі, пры- вітаўшыся, разам з падуладнымі князямі, баронамі, баярамі і шляхтай накіраваліся ў луцкі замак: усе былі ва ўрачыстым убраньні, са сваімі сьцягамі і сваімі радавымі ці сямейнымі гербамі. Славутых гасьцей віталі жыхары Луцкага навету, яны хацелі пабачыць в. кн. Вітаўта, караля Ягайлу, рымскага цэсара Жыгімонта і ягоную жонку Барбару, сястра якой, Ганна, была замужам за каралём Ягайлам (1402-16).

Узначальваў урачыстае шэсьце Вітаўт, які ехаў на сівым жарабцы — падарунак татарскага хана Ўлуг Мухамеда. За Вітаўтам ехаў цэсар Жыгімонт у суправаджэньні кракаўскага біскупа Збігнева Алесьніцкага і віленскага ваяводы Юрыя Гедыгольда. Кароль Ягайла злез з буланага скакуна і падсеў у пазалочаныя сані да Барбары, бо любіў жанчынаў. Калі ўрачыстае шэсьце наблізілася да гораду Луцка, адчынілася гарадзкая брама — і насустрач выйшлі працэсыі: першымі ішлі каталікі з луцкім біскупам Андрэем, за імі — праваслаўныя з харугвамі і луцкім епіскапам Дзянісам, далей ішлі армяне, татары і жыды.

У замку гасьцей чакалі сталы, застаўленыя залатым і сярэбраным посудам, прыгожымі крышталёвымі келіхамі, дарагімі францускімі вінамі. Вялікі князь Вітаўт хацеў пахваліцца багацьцем, шчодрасьцю і гась- ціннасьцю. Калі піраваньне скончылася, пачаліся нарады.

Жыгімонт запрапанаваў пакараць малдаўскага ваяводу Аляксандра за непаслушэнства, Цэсар радзіў зрабіць супольны паход на Аляксандра і выгнаць яго, а Малдавію падзяліць паміж удзельнікамі паходу. Ягайла запратэставаў, даказваючы, што Аляксандар — ягоны васал.

Наступным пунктам дэбатаў была справа чэскіх гусытаў. Ягайла і Вітаўт у мінулым годзе атрымалі "буллу" ад рымскага папы Марціна, які патрабаваў "выкараніць чэскіх герэтыкаў" і прасіў Ягайлу і Вітаўта ўзначаліць антыгусыцкі крыжовы паход. Цэсар быў іншае думкі. Ён радзіў склікаць сабор, запрасіць на яго гусытаў і памірыцца, чымсьці праліваць людзкую кроў. Затым ён запрапанаваў зраўнаць людзей "грэцкага" абраду ў правох з лацінікамі і цьвердзіў, што пад паглядам маральным духавенства "грэцкага" абраду стаіць вышэй ад духавенства "рымскага" абраду, бо задавальняецца адной жонкай. Тады як духавенства "рымскага" абраду мае па "дзесяць і болей" каханак. Гэтыя прапановы сустрэлі незадаволенасьць каталіцкага духавенства, а папскі легат Андрэй дэ Палацію быў абураны. Затое "русіны грэцкага" абраду выхвалялі цэсара, цешыліся надзеяй, што атрымаюць роўныя з каталікамі правы, у якіх яны былі абмежаваны пасьля 1387 г.

Калі вечарам Вітаўт з Жыгімонтам засталіся адны, цэсар пачаў хваліць Вітаўта за мудрасьць кіраваць дзяржавай, межы якой прасьціраюцца ад Балтыйскага да Чорнага мора. Пахвалы Жыгімонта Вітаўт слухаў з асалодаю, асабліва, калі цэсар пачаў хваліць веліч і славу Літвы. Жыгімонт зырка сачыў за паводзінамі князя і ягонай рэакцыяй. Прыцішаным голасам прамовіў: "Табе, князю, даўно пара быць каралём, а Літве каралеўствам". Вітаўт на хвіліну разгубіўся, але спахапіўся, падзякаваў цэсару за прапанову і прамовіў: "У гэтай справе трэба параіцца з каралём Ягайлам". Цэсар запэўніў яго: "Абяцаю палагодзіць з ім гэтую справу".

Наступнай раніцай Жыгімонт з Барбарай прыйшоў да Ягайлы. Прывіталіся, Жыгімонт зьвярнуўся да Ягайлы: "Найдаражэйшы браце!.. Ці ня бачыш ты, што нашы галовы аздоблены каралеўскімі каронамі, а наш супольны брат, князь Аляксандар — Вітаўт ня мае каралеўскай годнасьці. Дай сваю згоду, дай дазвол на карону, а я як рымскі цэсар каравую яго, хай будзе ён роўным табе і мне... Пагадзіся, каб твая бацькаўшчына Літва стала каралеўствам".

Ягайла адказаў: "Найдаражэйшы браце!... Згаджаюся з табою. Вітаўт заслужыў ня толькі каралеўскую, але і цэсарскую карону. Я гатовы Польскае Каралеўства перадаць яму і разам з гэтым карону". Жыгімонт запярэчыў: "Было-б неразважна каранаваць Вітаўта, сьцягнуўшы карону з тваёй галавы. Дазволь, каб кожны з нас ганарыўся сваёй каралеўскай годнасьцю". Ягайла ахвотна пагадзіўся з апініяй цэсара, бо разумеў, што калі Вялікае княства стане каралеўствам, то адчыняецца магчымасьць ягонаму сыну Казіmеру стаць каралём. Такім чынам, старэйшы Ўладыслаў быў-бы каралём у Польшчы, а малодшы Казімер — у Літве, бо вялікі князь Вітаўт спадчыньніка ня мае. Аднак Ягайла выказаў пажаданьне парадзіцца з сэнатам па гэтым пытаньні. Цэсар не падзяляў думкі Ягайлы, але не хацеў спрачацца.

Калі пазьней Жыгімонт спаткаўся з Вітаўтам і перадаў яму сваю размову з каралём, то Вітаўт, доўга не раздумваючы, паслаў свайго сакратара Міколу Сяпеньскага да польскіх сэнатараў сказаць, што цэсар Жыгімонт са згодаю караля Ягайлы хоча каранаваць яго. Не пасьпеў М. Сяпеньскі закончыць сваю прамову, як дзьверы расчыніліся — і ў залю паседжаньня ўвайшоў Вітаўт. Вітаўт паўтарыў сказанае М. Сяпеньскім і папрасіў сэнатараў выказацца ў справе каранацыі. Адным з першых выступіў кракаўскі біскуп Збігнеў Алесьніцкі.

"Найясьнейшы князю! — пачаў ён. — Давайце ўспомнім мінулыя часы, калі твой брат Ягайла сватаўся да нашае каралевы Ядзьвігі... Яго мы ўзялі пры ўмове, што ён ахрысьціць Літву і Русь у хрысьціянскую каталіцкую веру. Ён прысягаў і кляўся нам, што Літву і Русь далучыць на вечныя часы да Польшчы... Ніхто з вас не аспрэчваў далучэньня. А што мы сёньня пачулі?.. Ты хочаш сарваць вунію ды распачаць крывавую вайну... Мы зьберагаем нашую дамоўленасьць... Вось памерла каралева Ядзьвіга, і мы не адмовіліся ад караля Ўладыслава, пакінулі яго каралём у нашым каралеўстве. Ён з літвінкаю Сонькай прыжыў сыноў і хоча нашае каралеўства прыгарнуць сваім сынам, зрабіць іх спадкаемцамі, мы і на гэта пагадзіліся. Сёньня мы чуем, што ты з каралём Уладыславам дамовіліся адарваць ад Польскага Каралеўства злучаныя на вечныя часы землі, хочаце Каралеўства парэзаць на часткі... Мы, прымаючы твайго брата да сябе, мелі на ўвазе адно — пашырэньне каталіцкае веры, а не багацьці, якіх Літва ня мела, як ня мела гісторыі, магутнасьці і славы. Яна была стаптаная, зьнішчаная суседзямі... Крыжакоў мы разьбілі і абаранілі княства ад паняволеньня. Таму я буду супраціўляцца тваёй, найясьнейшы князю, каранацыі колькі буду мець сілаў". Наступныя прамоўцы амаль даслоўна паўтаралі сказанае кракаўскім біскупам Алесьніцкім. Князь Вітаўт пачуўся абражаным не за сябе, але за Літву і выйшаў з залі паседжаньня сэнату.

На гэтым паседжаньні біскупы, пралаты і паны пастанавілі неадкладна пакінуць Луцк. Сэнатары зайшлі да Ягайлы паведаміць аб сваім рашэньні. Абураныя, яны папракалі Ягайлу: "Навошта ты нас склікаў сюды?... Няўжо для таго, каб мы пацьвердзілі каранацыю і адлучэньне Літвы і Русі?.. Мы просім цябе, ад'язджай хутчэй, бо нельга заставацца там, дзе плянуецца змова на згубу Каралеўства.

Застаўся Вітаўт з Жыгімонтам адны. Князь як дарунак перадаў цэсару апраўлены ў золата і серабро рог тура, якога вялікі князь Гедымін забіў у Вільні падчас паляваньня. Жыгімонт падзякаваў за такі бясцэнны дар і запэўніў Вітаўта ў шчырасьці сваіх плянаў — Літву зрабіць каралеўствам, а Вітаўта першым каралём Літвы і Русі.

Паводле Вітаўта Вялікае княства Літоўскае — гэта самастойная дзяржава, але ў саюзе з Польшчай. Аднак выступленьні біскупа Алесьніцкага ды іншых сэнатараў прымусілі вялікага князя іншымі вачыма зірнуць на становішча ВКЛ і падумаць: "А што будзе, калі ён і Ягайла памруць? Тады палякі, без сумніву, будуць сьведчыць, што ВКЛ пры Ягайле і Вітаўце было інкарпаравана ў Польскае Каралеўства і аспрэчваць ня будзе каму. Значыць, цяпер трэба настойліва ісьці да мэты — Літву зрабіць каралеўствам і ўвесьці яе ў сям'ю каралеўскіх дзяржаў. Каралём Літвы магу быць я, Вітаўт. Пасьля маёй сьмерці каралём стане адзін з сыноў Ягайлы. Такім чынам Вялікае княства ўнезалежніцца і стане прыцягаючым цэнтрам для ўсходніх славянаў".

Вітаўт вырашыў паслаць сваіх дарадчыкаў віленскага ваяводу Юрыя Гедыгольда і маршалка Румбальда да Ягайлы з паведамленьнем аб сваіх плянах. Адначасна паведаміць польскім сэнатарам, што Вітаўт "прыме карону незалежна ад таго, ці падабаецца гэта палякам, ці не".

Польскія саноўнікі, занепакоеныя пастановай Вітаўта, вырашылі паслаць да яго пасольства. Гэтае пасольства, узначаленае кракаўскім біскупам Алесьніцкім, прыбыло ў Гародню на Вялікдзень 16-га красавіка 1429 г. Біскуп Алесьніцкі прынагодна запытаў Вітаўта, чаму ён узбройвае замкі, што мяжуюцца з Польшчай. Вітаўт патлумачыў: "Рыхтуемся да абароны, да неспадзяваных нападаў".

Наступныя дні біскуп Алесьніцкі намагаўся ўгаварыць князя адмовіцца ад каранацыі. У адказ Вітаўт паясьніў, што цяпер, калі палякі ўжо паскардзіліся рымскаму папу Марціну і разаслалі лісты са скаргаю да каралёў, ён ня можа зьмяніць сваю пастанову. Як можна адмаўляцца ад каранацыі, калі ўсе аб ёй ведаюць? Выслухаўшы тлумачэньні вялікага князя, біскуп Алесьніцкі папярэдзіў Вітаўта, што Польшча ніколі не пагодзіцца на ліквідацыю вуніі, на адлучэньне ВКЛ ад Польшчы і на абвешчаньне Літвы каралеўствам. Вялікі князь спакойна выслухаў пагрозьлівае асьведчаньне польскага пасла, не даўшы яму адказу.

Стойкасьць Вітаўта моцна непакоіла польскіх сэнатараў, і яны рашылі ізноў паслаць да вялікага князя пасольства, якое ўзначаліў той-жа кракаўскі біскуп Збігнеў Алесьніцкі. Паслы прыехалі ў Гародню ў верасьні 1429 г. На гэты раз біскуп Алесьніцкі зьвярнуўся да Вітаўта з прапановай: "Найясьнейшы князю!.. Ведаем, як ты прагна хочаш мець каралеўскую годнасьць і як імкнешся атрымаць карону ад рымскага караля... Мы прынесьлі табе добрую навіну, ты маеш магчымасьць атрымаць каралеўскую годнасьць дзякуючы добразычлівасьці твайго брата караля польскага Ўладыслава. Ён хоча праявіць братэрскую любоў і дабраахвотна ахвяроўвае табе сваю карону. Вазьмі ты яе і спыні пошук кароны ў нашага супольнага ворага рымскага караля Жыгімонта... Робіцца гэта са згодаю біскупаў, пралатаў і паноў Польскага Каралеўства. Мы згаджаемся прызнаць тваю каралеўскую годнасьць і надаць табе сарону каралеўства, карону значна старэйшую і найпачаснейшую ад тае, якую прапануе рымскі кароль... Калі ты не пагодзішся, то ведай: Польскае Каралеўства не дапусьціць тваёй каранацыі і не пасароміцца прымяніць зброю".

Прыхаваную польскую інтрыгу ня цяжка было разгадаць. Калі-б вялікі князь Вітаўт прыняў карону Ягайлы і стаў польскім каралём, то становішча Вялікага княства Літоўскага не мяняецца, яно далей застаецца пад Польшчай.

Вітаўт падзякаваў біскупу Алесьніцкаму за ягоную прапанову і сказаў: "Было-б мне вялікай ганьбай сьцягваць карону з галавы майго брата караля Ўладыслава... Хай ён мае сваю карону, а я сваю". Біскуп Алесьніцкі не спадзяваўся атрымаць такі адказ, які пасьведчыў аб рашучасьці вялікага князя мець карону.

У лістападзе 1429 г. Вітаўт атрымаў ад рымскага папы Марціна ліст, у якім папа прасіў не заключаць ніякіх дагавораў без згоды караля Ягайлы і каралеўскае рады. Папа Марцін напамінаў Вітаўту, што "Вялікае княства Літоўскае ўлучана ў Польскае Каралеўства". Таму папа прасіў не адлучаць яго ад Польшчы і не тварыць новага каралеўства, бо стварэнне каралеўства пакрыўдзіць караля і Польшчу, а гэта можа выклікаць вайну і спусташэньні. Марцін прасіў вялікага князя перадумаць, пачакаць на дазвол і благаславенства касьцёла. Ён пісаў у лісьце: "Мы прызнаем твае заслугі, якія даюць табе права на каралеўскую карону, але атрымаць яе трэба прыстойна, каб не пакрыўдзіць караля Ўладыслава".

Ліст рымскага папы не зьмяніў настрою ў канцылярыі Вітаўта, бо ўсе ведалі, што паміж папам Марцінам і цэсарам Жыгімонтам пануе варажэча і што папа Марцін ёсьць і будзе саюзьнікам Польшчы.

Падчас дыпляматычнай мітусьні знай-

шліся асобы ў асяродзьдзі Вітаўта, якія пачалі выказваць засьцярогі, што каранацыя можа аказацца незаконнай, паколькі сам Жыгімонт яшчэ не каранаваны цэсарскай каронай. Ці мае ён права іншым даваць кароны? Ізноў-жа, раз папа Марцін забараніў біскупам каранаваць Вітаўта, то паўстае пытаньне, хто-ж яго каранує? Каб высьветліць гэтыя і іншыя засьцярогі ў сакавіку 1430 г. Вітаўт паслаў ганца з лістом да Жыгімонта. Каб высьветліць пытаньні, зьвязаныя з каранацыяй, Жыгімонт запрасіў прафэсараў і дактароў Венскага ўнівэрсытэту. Пасьля дэбатаў прафэсары вылучылі двух дактароў права — Баптысту Цыгаля і Жыгімонта Ротга, якія паедуць да Вітаўта і вытлумачаць яму працэдуру каранацыі і яе законнасьць.

Цэсар паведаміў Вітаўту, што ў ліпені выпраўляецца пасольства, узначаленае Баптыстам Цыгалем, якое вязе важныя дакументы, сярод якіх ёсьць каранацыйны акт, такога зьместу: "Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае абвяшчаецца на вечныя часы каралеўствам, якое не падлягае Польшчы і ня ёсьць і ня будзе васальным каралеўствам цэсара сьвятой Рымскай імпэрыі".

Палякі, бачачы настойлівасьць Вітаўта каранавацца, разаслалі агентаў. Неўзабаве агент паведаміў, што ў ліпені выязджае пасольства з Баптыстам Цыгалем. Палякі пастанавілі пільна сачыць за мяжой, каб пасольства не пранікла ў Прусію, дзе крыжакі трымалі некалькі харугваў напагатове і мелі заданьне ўзяць пад ахову пасольства. Другі агент рапартаваў, што ў Нюрынбергу майстры залатых спраў робяць кароны, якія будуць гатовыя ў пачатку жнівеня

Вітаўт атрымаў ад Жыгімонта паведамленьне, што пасольства з каронамі прыбудзе ў Вільню ў пачатку верасьня 1430 г. і што ён можа склікаць гасьцей на каранацыю. Вялікі князь Вітаўт разаслаў ганцоў з запросінамі. На ўрачыстасьць прыехалі ў Вільню ўнук Вітаўта, вялікі князь маскоўскі Васіль, мітрапаліт Русі Фоцій, вялікі князь Цьверу Барыс, князь Юры з Адоева, татарскі хан Улуг Мухамед, вялікі магістр крыжацкага ордэну Русдорф, магістр лівонскага ордэну Рутэнберг, ваявода валошскі Ільяш, удзельныя літоўскія князі і вяльможы. Таксама прыехалі пасольствы ад бізантыйскага імператара Іоана, ад Ноўтараду, Пскова, Разані, татарскага хана Даўлет Бердэя з Крыму, Гданьска, Штэціна ды іншых гарадоў. Вітаўт усіх шчыра і шчодра частаваў.

У жніўні Вітаўт даведаўся, што пасольства, узначаленае Баптыстам Цыгалем, схоплена пазнаньскім падкаморым Янам Чарнкоўскім непадалёку ад прускай мяжы. З адабраных дакумантаў палякі даведаліся, што едзе другое пасольства, узначаленае магдэбурскім арцыбіскупам Гюнтэрам фон Шварцбургам, які меўся каранаваць і намасьціць сьвятым мірам і алеем вялікага князя Вітаўта і ягоную жонку Юльляну. Гэтае пасольства вязе залатыя кароны, сферу, скіпетэр, мантыю і дарагое каранацыйнае адзеньне. Паслы, прыехаўшы ў Франкфурт на Одэры, даведаліся, што мяжу сьцерагуць велькапольскія шляхцічы, але рызыкнулі прадоўжыць свой шлях і дабраліся да Костшыня. Аднак, калі ганцы паведамілі, што дабірацца да прускай мяжы вельмі небясьпечна, пасольства павярнула назад, каб знайсьці іншы шлях.

Вітаўт, даведаўшыся, што пасольства павярнула назад, фізычна аслаб і больш не хаваў сваёй хваробы. У яго з нядаўняга часу зьявіўся паміж лапатак гнойны нарыў, які не паддаваўся лячэньню. Тагачасныя лекары-спэцыялісты сьцьвердзілі — злаякасны "карбункул". Да гэтага часу вялікі князь трымаўся бадзёра, але цяпер ягоныя фізычныя і духовыя сілы апалі. Ён пачаў цяміць, што ягонай і Ягайлавай мары пра Літоўскае Каралеўства не суджана збыцца. Засталося запрасіць Ягайлу, каб перад сьмерцю па-братэрску разьвітацца. Паслаў ён ганца да Ягайлы з прасьбаю прыехаць у Вільню.

10-га кастрычніка 1430 года браты спаткаліся. Аказалася, што кароль прыехаў у суправаджэньні кракаўскага біскупа Збігнева Алесьніцкага, бо польскія саноўнікі пабаяліся пускаць аднаго Ягайлу ў Вільню да брата. Пасьля пачастункаў, калі Вітаўт і Ягайла засталіся адны, Ягайла пачаў скардзіцца Вітаўту, што галоўны праціўнік Вітаўтавай каранацыі — кракаўскі біскуп Алесьніцкі.

Вітаўт спрабаваў задобрыць біскупа Алесьніцкага дарагімі падарункамі. Адначасна вялікі князь зьвярнуўся за дапамогай да віленскага біскупа Мацея, каб Мацей папрасіў біскупа Алесьніцкага пагадзіцца на каранацыю, а Вітаўт абяцаў пасьля каранацыі вярнуць карону цэсару Жыгімонту. Выслухаўшы просьбу віленскага біскупа Мацея, біскуп Алесьніцкі паясьніў, што Вітаўт можа адаслаць карону цэсару, але калі адбудзецца каранацыя вялікага князя на караля, то Літва аўтаматычна становіцца каралеўствам. Такім чынам, вунія Літвы з Польшчай траціць сваю юрыдычную сілу, бо нельга каралеўства ўлучаць у каралеўства. Вось чаму біскуп Алесьніцкі дазволіць ня можа і права ня мае пагадзіцца на каранацыю, бо тады-б польскі народ палічыў яго здраднікам Польскага Каралеўства.

Калі біскуп Мацей перадаў Вітаўту сваю размову з біскупам Алесьніцкім, вялікі князь страціў жыцьцёвую энергію, бо апошняя надзея, як агеньчык дагараючай сьвечкі, пагасла. 16-га кастрычніка Вітаўт папрасіў прабачэньня ў сабраных на каранацыю гасьцей і з падарункамі адпусьціў іх дамоў. Ён разам з Ягайлам задумаў адведаць старыя Трокі, колішнюю бацькаву сталіцу. Вітаўт сеў на любімага каня, але ехаць ня змог, і яго паклалі ў карэту. Кракаўскі біскуп бачыў, што прыходзяць апошнія дні жыцьця літоўскага сэпаратыста і не аспрэчваў загад караля вярнуцца ў Кракаў. Ягайла застаўся з хворым стрыечным братам у Троках. Князь паспавядаўся ў віленскага біскупа Мацея, прычасьціўся і папрасіў прабачэньня ў Ягайлы, князёў, баяраў і каханай Юльляны. 27-га кастрычніка 1430 года літоўскі герой вялікі Вітаўт Кейстуціч заснуў вечным сном. Адышоў змагар, які ня зьдзейсьніў сваёй мары аб Літоўскім Каралеўстве.

А што было-б, калі Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае сапраўды стала Каралеўствам? Ці здолела-б яно паслужыць цэнтрам аб'яднаньня ўсходніх славянаў і пагрозай татарам, як гэта марыў Вітаўт? Аднак лёс ВКЛ злажыўся супраць ягоным жаданьням. Мы засталіся без дзяржаўнага гістарычнага імя, але не без гісторыі, якую часткава прызабылі. Забаранілі нам мецъ сваю старадаўнюю сымболіку, але мы яе носім у сваіх сэрцах і верым, што адродзім. Нам кажуць, што няма ў нас будучыні, а мы з надзеяй глядзім у будучыню і верым, што адродзім сваю дзяржаву і яе слаўную мінуўшчыну.

## БЕЛАРУСКАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ ПРАПАНУЕ ЎСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД

Прадстаўнікі беларускай інтэлектуальнай эліты, сярод якіх народныя паэты Беларусі, Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру Карлас Шэрман, праф. Радзім Гарэцкі ды іншыя вялікія людзі Беларусі, выступілі з ініцыятывай склікаць у 2000-м годзе Ўсебеларускі зьезд.

"На сутыку тысячагодзьдзяў для нашай Бацькаўшчыны настаў час, калі вызначаецца лёс ня толькі цяперашніх пакаленьняў, але і наступных. Рашаецца пытаньне: ці захавае Беларусь жаданьне стацца свабоднай, багатай краінай, ці будзе паступова паміраць, перадаўшы свой лёс у чужыя рукі. Мы аказаліся на гістарычным рубяжы, за якім — нацыянальнае бяспамяцтва.

Тыя, хто імкнецца зьнішчыць нашу дзяржаўнасьць, бяз сораму спасылаюцца на ідэі інтэграцыі і грамадзкую апінію. За куртынаю ілжы і фальсыфікацыі яны рыхтуюць здачу сувэрэнітэту краіны, інкарпарацыю яе ў новую агрэсыўную імпэрыю. Гэты згубны здраднікі працэс неабходна рашуча спыніць. Вось таму мы зьвяртаемся да ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны з прапановаю правесьці ў 2000-м годзе Ўсебеларускі зьезд.

Яго мэта — заявіць усяму сьвету, што дзяржаўнасьць і дабрабыт Беларусі зьяўляюцца для нас найвышэйшымі цэннасьцямі, што мы ніколі не пазволім ад нашага імя таргаваць Радзімай. Мы хочам і будзем даказваць працаю і законнасьцю сваю роўнасьць з цывілізаванымі, дэмакратычнымі народамі, сябруючы і супрацуючы з імі, уносячы свой непаўторны ўклад у разьвіцьцё прагрэсу", гаворыцца ў заяве.

Інтэлігенцыя заклікае "ўсе здаровыя сілы грамадзтва" стварыць арганізацыйны камітэт зьезду, каб "абараніць незалежнасьць роднай краіны", адкінуўшы пры гэтым усе палітычныя рознагалосьсі.

## БЕЛАРУСКІЯ ПАРТЫІ БУДУЦЬ БАЙКАТАВАЦЬ МАЮЧЫЯ АДБЫЦЦА ВОСЕНЬСКІЯ ВЫБАРЫ Ў НЕЛЕГІТЫМНЫ ПАРЛЯМЭНТ.

Пра гэта гаворыцца ў заяве, прынятай **22 лютага** на Кансультатыўнай радзе палітычных партыяў-удзельніцаў перамоваў. Ніжэй падаецца тэкст гэтай, без перабольшваньняў, сэнсацыйнай заявы.

**Заява Кансультатыўнай Рады апазыцыйных палітычных партыяў**

Падпісаньне Лукашэнкам А. Р. Выбарчага Кодэкса Рэспублікі Беларусь па сутнасьці азначае грубае парушэньне ім публічна прынятых на сябе міжнародных абавязальніцтваў аб правядзеньні свабодных і справядлівых парлямэнцкіх выбараў, зафіксаваных у Санкт-Пецярбурскай дэкларацыі Парлямэнцкай асамблеі АБСЭ і 22 артыкуле Дэкларацыі стамбульскай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаваў і кіраўнікоў урадаў краін-удзельніцаў АБСЭ. **Аднабаковай адмовай ад узгодненнага мэханізму перамоваў цяперашняя ўлада перакрэсьлівае ўсе папярэднія дамоўленасьці, надзею беларускага народа і міжнароднай супольнасьці на разьвязваньне канстытуцыйнага крызіса.**

Нормы Выбарчага заканадаўства прынятыя ў выніку перамоўнага працэса павінны забясьпечваць нашаму грамадзтву на пэрспэктыву надзейны падмурак дэмакратычнага, цывілізаванага, прынятага ў большасьці краінаў мэханізму легітымнасьці, правамоцнасьці, законнасьці ўлады.

Кансультатыўная Рада сацыяльных палітычных партыяў па-ранейшаму настойвае на стварэньні ў краіне атмасфэры даверу, забясьпячэньня роўнага доступу да дзяржаўных СМІ і заканадаўчай базы, якія дазволяць правесьці выбары, якія будуць адпавядаць дэмакратычным прынцыпам, замацаваным у міжнародных дакумэнтах, а менавіта: выбары павінныя быць усеагульнымі, роўнымі, справядлівыві, тайнымі, сбоднымі, адкрытымі (галоснымі), прамымі.

Мы заяўляем - Выбарчы Кодэкс, падпісаны А. Р. Лукашэнкам, не адпавядае гэтым прынцыпам. Ён прыняты Палатай прадстаўнікоў, у якой прадстаўленая толькі адна трэць выбарнікаў Беларусі. Выбарчы кодэкс прыняты ў аднабаковым парадку, паза межамі перамоўнага працэсу.

**Цяперашняя ўлада ня здольная працягваць сваё існаваньне на законных падставах рыхтуецца да арганізацыі выбарчага фарсу па зададзеным сцэнары і з загадзя вядомымі вынікамі, удзельнічаць у якіх палітычныя партыі лічаць безсэнсоўным.** Вагу гэтаму фарсу ўрадавы бок спрабуе надаць, прапануючы адначасовае правядзеньне выбараў у так званы саюзны парлямэнт.

Мы ў чарговы раз падцьвярджаем сваю падрыхтаванасьць да перамоваў з уладамі ў фармаце, узгодненым у 1999 годзе пры пасярэдніцтве міжнародных арганізацыяў.




IN MEMORIAM

Сьв. Памяці

## АЎГЕН ЯН ДУБОВІК

13-га студзеня 2000 году, пасьля кароткай а цяжкай хваробы, адыйшоў у вечнасьць Аўген Ян Дубовік, сын сьв. пам. Янкі Дубовіка і Ніны Несьцяровіч-Дубовік. Бацькі яго паходзілі з Вялейшчыны.

Пакойны Аўген нарадзіўся 4-га сакавіка 1944 году ў Вялейцы, дзе яго бацька працаваў тэхнікам дэнтыстыкі. Улетку 1944 году Дубовікі з маленькім Аўгенам пакідаюць сваю Вялейку ды едуць на Захад, каб ня трапіць пад "апеку" бальшавіцкай улады. Пасьля заканчэньня вайны, Дубовікі, так як і многія іншыя ўцекачы з Беларусі, жылі ў Нямеччыне, у лягеры. У 1949 годзе сям'я пераязджае ў Злучаныя Штаты Амэрыкі. Пачаткова затрымаліся ў Нью-Ёрку, а ў 1958 годзе пераехалі ў невялікі гарадок Вайт Плейнс, дзе купілі свой домік.

Аўген пасьля заканчэньня сярэдняй школы ў Вайт Плейнс паступіў у каледж у Нью-Ёрку, які закончыў у 1965 годзе з ступеняй бакалаўра гуманітарна-матэматычных навук. У гадох 1965-67 служыў у ваенна марскім флоце ЗША. У 1972 годзе пачаў працаваць у сярэдняй школе настаўнікам спэцыяльнай адукацыі і завочна працягваў вучобу ў каледжы, закончыўшы які атрымаў ступень магістра па спэцыяльнай адукацыі.

Пакойны Аўген заўсёды памятаў, што ён беларус родам з Беларусі. Цікавіўся і ведаў гісторыю Беларусі ды добра арыентаваўся ў сёньняшнім жыцьці на Беларусі. Ён быў вялікім любіцелем кампютара, і нават стварыў сваю старонку (вэбсайт) на інтэрнэце — "Гоман".

Адзін зь яго "кампютарскіх" сяброў, атрымаўшы вестку аб сьмерці Аўгена, пераслаў праз кампютэр свае спачуваньні зазначаючы: "Дубовік'с 'Гоман' на інтэрнэце быў адной з найлепшых крыніц апініі аб жыцьці ў сёньняшняй Беларусі".

Паховіны Аўгена былі вялікія. Разьвітацца з ім прыйшло шмат людзей. Нягледзячы, што ў некралёгу ў мясцовай газэце была просьба, каб замест кветак злажыць ахвяру ў стыпэндыяльны Фонд ім. Аўгена Дубовіка, вянкоў і кветак было многа.

У панядзелак, 17-га студзеня 2000, гроб быў перавезены ў грэцкую праваслаўную царкву. Пахавальны абрад выканаў а. Эльяс. Вялікая царква была напоўнена народам, уключна з бурмістрам места Вайт Плейнс. У дзень паховінаў перад ратушай гарадзкой управы амэрыканскі сьцяг быў апушчаны да палавіны машты ў памяць пакойнага. Нябожчык пахаваны на мясцовым магільніку, там дзе спачываюць яго бацькі.

Сьв. памяці Аўген пакінуў у смутку жонку Ларысу Кажан Дубовік, дарослых сыноў Эрыка і Алекса ды сястру Альжбету Сіяппа.

**Вечная памяць дарагому зяцю!**

*Віталь Кажан.*



Сьвяткаваньне 25-га Сакавіка — Аддзел БАЗА ў Дэтройце, Мічыган, ЗША., ў 1954-м годзе.
Група дэтройцкіх беларусаў з кампазытарам Міколам Шчагловым-Куліковічам падчас сьвяткаваньня.




### Сямён Шарэцкі запрошаны ў Вашынгтон

Сьпікер Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі атрымаў 22-га лютага запрашэньне ад Кангрэсу ЗША прыняць удзел у слуханьнях па Беларусі. Слуханьні пройдуць у сярэдзіне сакавіка ў Камісіі Кангрэсу ЗША па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Эўропе.

Матэрыял Сьвятланы Эпіфанавай "Калі жах лунае ў паветры" - погляд расейскага грамадзяніна на беларускую рэчаіснасьць. (Адзін абзац з вялікага артыкулу):

*Але я зараз ня ўпэўненая, шчыра кажучы, што ў нас так ужо і дрэнна. Праблемаў дастаткова. Але - самае галоўнае - у нас не засталося адчуваньня Савецкага Саюза.* ***А ў Менску ім прасякнута ўсё.*** *У мяне ўвесь час было адчуваньне, што я вярнулася ў юнацтва з усімі гэтымі саўковымі жахамі, але толькі зірнула на гэта з боку, як іншаземец.*



### Каго баяцца, таго й душаць

На паседжаньні камісіі, якой кіруе палкоўнік Замяталін, вырашылі пакуль не рэгістраваць Партыю БНФ. Летась у сьнежні лукашэнкаўцы прынялі норму, паводле якой у назвах партыяў і арганізацыяў забаронена ўжываць словы «народны» й «нацыянальны». Сойм Беларускага Народнага Фронту мусіў удакладніць назву, зьвёўшы яе да проста «БНФ», без расшыфроўкі.

Аднак рашэньня пра перарэгістацыю Партыі БНФ і Грамадзкага аб'яднаньня БНФ "Адраджэньне" партыя так і не дачакалася. Вінцук Вячорка ўжо заявіў, што партыя мае дастаткова досьведу падпольнай працы, але пацьвердзіў, што партыя будзе дабівацца перарэгістрацыі. Як вядома, большасьць партыяў, у тым ліку й КХПБНФ, прайшлі перарэгістрацыю без перашкодаў.

Б.Т.

### ПРЭМ'ЕР БЕЛАРУСІ СЯРГЕЙ ЛІНГ

адпраўлены 18-га лютага ў адстаўку. Часова выконваючым абавязкі прэм'ер міністра прызначаны Уладзімір Ярмошын. На думку шматлікіх наглядальнікаў ніякіх зьменаў у палітыцы Беларусі не адбудзецца, бо палітыка краіны фармуецца ня ўрадам, а Лукашэнкам і яго адміністрацыяй.

Сяргей Лінг выключна дакладна выконваў усе ўказаньні, якія яму даваліся. Таксама будзе рабіць і У. Ярмошын. Абодва яны тыповыя выхаванцы старой камуністычнай сыстэмы, дзе ўказаньні зьверху заўсёды і паўсюдна выконваліся безадгаворачна. Такім чынам на зьмену аднаму выканаўцу палітыкі Лукашэнкі прыйшоў другі.

Эканоміка краіны знаходзіцца ў тупіку і мае патрэбу ў пераводзе на рынкавыя рэйкі.

Краіну могуць чакаць два шляхі. Першы — лібэралізацыя ў эканоміцы. Другі, больш праўдападобны — продаж беларускае ўласнасьці расейскаму пакупніку. Лукашэнка можа паспрабаваць, каб пазбегнуць адказнасьці за праваў у эканоміцы, зьліцца з Расейскай Фэдэрацыяй "праз эканоміку".

На які са шляхоў стане "беларускае" кіраўніцтва будзе зразумела ўжо ў бліжэйшы час...

